# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

2 студзеня 2015 года № (1027)





*Віншуем з Калядамі праваслаўных чытачоў! Жадаем цяпла, дабра і ўтульнасці!*



## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### У топ-50 бізнесменаў увайшлі двое з Астравеччыны

**АСТРАВЕЦ.** Эксперты электроннай газеты "Ежедневник" склалі спіс топ-50 паспяховых і ўплывовых бізнесменаў Гродзенскай вобласці. Сярод іх два бізнесмены з Астравецкага раёна: **Леанід Наваграм** і **Павел Юрмашоў**. Яны занятыя ў сферы харчавання. З'яўляюцца партнёрамі. Мужчыны ў 2003 годзе ўзялі ў арэнду былую птушкафабрыку і адкрылі вытворчасць індычыны. Фермерская гаспадарка "Астравецкае" сёння адзін з буйнейшых вытворцаў далікатэснага мяса. Каля 30% прадукцыі ідзе на Расію, у Гродна і Мінск. На прадпрыемстве працуе каля 100 чалавек.

### Беглі ў навагодніх касцюмах

**МАЛАДЗЕЧНА. СМАРГОНЬ.** У Мінску 27 снежня зладзілі карнавальны забег. Ахвотныя беглі ў навагодніх касцюмах ды шапках Дзядоў Марозаў. Ад Маладзечна на святочныя спаборніцтвы паехалі сямёра ўдзельнікаў клуба аматараў бегу "Рэгіён". Агулам у забегу бралі ўдзел 115 чалавек. Беглі два кругі па шэсць кіламетраў. Як распавёў бягун з Маладзечна **Васіль Лябецкі**, надвор'е было сонечнае, але 9 градусаў марозу. Беглі і Матылькі, і Снягурачкі. Другое месца спадар Васіль узяў ва ўзроставай катэгорыі ад 60 да 69 гадоў. Смаргонец **Валодзя Чырыца** стаў першым у катэгорыі 40-49 гадоў. Сярод хлопцаў да 18 гадоў **Піліп Нехвядовіч** стаў другім, а сярод дзяўчат да 18 гадоў **Алена Траццякова** стала першай.

### У конкурсе Дзядоў Марозаў і Снягурак перамаглі СШ №5

**ВІЛЕЙКА.** У горадзе 27 снежня адбыўся раённы конкурс-шэсце Дзядоў Марозаў і Снягурачак. Удзельнічалі ўсё ім 12 камандаў з прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў адукацыі Вілейшчыны. Былі не толькі Дзяды Марозы і Снягурачкі, але і іх світа. Навагоднія персанажы прайшліся шэсцем па галоўных вуліцах горада. На цэнтральнай плошчы адбыўся конкурс. Каманды паказалі візітоўку, павіншавалі з Новым годам, паўдзельнічалі ў гульнявым конкурсе. Перамаглі ў раённым конкурсе прадстаўнікі сярэдняй школы №5 горада. На другім месцы – навагоднія персанажы з Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў, на трэцім – з Любанскага сельвыканкама.

### Базавая велічыня можа вырасці

Праект рэспубліканскага бюджэту на 2015 год сфарміраваны. У яго ўлічылі павелічэнне базавай велічыні ад 150 да 180 тысяч рублёў. Базавая можа вырасці ад 1 студзеня. Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве фінансаў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Новы год будзе, пакуль дзеці вераць у казку



Фота Насасі РОЎДЫ.

Выхаванцы школы-інтэрната №2 у Маладзечне глядзяць падарункі, якія атрымалі на "Ёлцы".

**МАЛАДЗЕЧНА. Напярэдадні Новага года ў школе-інтэрнаце 2 для дзяцей са слабым зрокам – "Ёлка".**

Дзеці – у касцюмах. Ёлка – у мішуры. Бацькі пераступаюць з нагі на нагу, адпусціўшы дзяцей да сваіх сяброў, а сёння – міфічных герояў.

Піраты, супергерої, каўбоі, прынцэсы, дактары і трусы. Сказаць, які вобраз сёлета ў модзе, цяжка. Хутчэй арыгінальнасць, у кожнага свой герой.

Пакуль свята не пачалося, удзельнікі выступлення хаваюцца за ёлкай. Тут Дзед Мароз са Снягурачкай, чараўнік. Ну, і якое ж свята без тых, хто яму перашкаджае? Злюка і Зэюка таксама чакаюць пачатку.

Перад навагодняй казкай дырэктарка школы **Наталля Глінская** ўзгадвае асноўныя падзеі 2014 года. Пяць стыпендый спецыяльнага фонду прэзідэнта, дыплом першай ступені ў абласным конкурсе на лепшую навучальную ўстанову спецыяльнай адукацыі, 50-годдзе школы.

**На свята з падарункамі завіталі супрацоўнікі Следчага камітэта і Маладзечанскага райвыканкама. Акрамя салодкіх падарункаў, школа атрымала фотаапарат, спартыўны інвентар і сертыфікат на тры мільёны рублёў.**

Карагод вадзілі, вершы расказвалі, агні на ёлцы запальвалі, Злюку і Зэюку перавыхоўвалі. А напрыканцы – падарункі. Усё ў добрых традыцыях навагодніх святаў.

### Навагодняя ноч у школе-інтэрнаце

Пра школу Наталля Глінская гаворыць як пра вялікую сям'ю.

– У нас сапраўды ўсё па-дамашняму. Мабыць, так атрымліваецца таму, што кожны ў калектыве адносіцца да дзяцей, як да сваіх. Сярод іншых, у школе 30 дзяцей-сірот. Мы імкнёмся частку свайго цяпла аддаць ім. Выхаванцы ўспрымаюць нас як эталон паводзінаў, і мы намагаемся паказваць лепшыя якасці.

Спадарыня Наталля прыходзіць у школу да сямі раніцы. Вітаецца з усімі па імёнах. Так завелзена.

– Толькі ўваходжу, як чую: "Добры дзень, Наталля Леанідаўна!" І пачынаем размаўляць: як прайшла ноч, што здарылася, якія пытанні.

На зімовых канікулах у інтэрнаце застаюцца жыць 23 дзіцяці.

– Новы год мы сустракаем па традыцыі за дамашнім сталом. Гатуем, рыхтуем праграму. Я прыязджаю, дзяцей віншую, у Снягурачку пераапранаюся. Малодшыя потым заўсёды кажуць: "Наталля Леанідаўна! Вы былі Снягурачкай!" Я кажу: "Дзеці! Не можа быць! Гэта ж казачны персанаж!" Да пятага класа ўсе вераць.

А ў новым годзе Наталля Глінская жадае дарослым яшчэ больш любіць сваіх дзяцей. Часам праз мітусню і працу мы не заўважаем, як дзеці вырастаюць. Вельмі важна, каб у душы кожнага з нас жыло дзіця, якое верыць і спадзяецца. А калі чалавек верыць, то тое, чаго ён хоча, абавязкова спраўджваецца.

**Настасся РОЎДА.**





● ВЫСТАВЫ

# Склалі мазаіку – з'явіўся подпіс мастака

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале краязнаўчага музея 20 снежня пачалася выстава. Яна прысвечаная 180-годдзю з дня нараджэння вядомага мастака ўраджэнца вёскі Цынцавічы на Вілейшчыне Нікадзіма Сілівановіча.**

На выставе можна пазнаёміцца з яго радаводам, пабачыць фотарэпрадукцыі карцін, якія захоўваюцца ў Літоўскім мастацкім музеі ў Вільні. А таксама – выявы мазаік, копіі дыпломаў аб заканчэнні Акадэміі мастацтваў.

– Гэта выстава з'яўляецца як бы сімвалічным працягам праекта "Дзяды" **Эдуарда Мацюшонка**, – кажа навуковы супрацоўнік музея **Надзея Аўдзей**. – Пасля яго завяршэння мы па чарзе прыгадваем вядомых землякоў-мастакоў – **Льва Альпяровіча** і Нікадзіма Сілівановіча.

Адкрылася выстава вечарынай памяці. Пра знакамітага асобы Нікадзіма Сілівановіча казаў дырэктар музея **Сяргей Ганчар**. **Барыс** і **Валянціна Цітовічы** прыгадалі часы, калі святкавалі 155 год з дня нараджэння мастака.

Нашчадак Сілівановіча і даследчык яго творчасці **Віталь Курдэка** пры дапамозе мультымедыйнай прэзентацыі пазнаёміў з творчым шляхам і мазаічнай спадчынай продка. Раздаў прысутным брашуру "Акадэмік", якую выпусціў адмыслова для вечарыны.



Фота забяспечана Віталем КУРДЗЭКАМ.

Мастак Эдуард Мацюшонак расказвае пра карціну, прысвечаную Нікадзіму Сілівановічу.

### Пра Сілівановіча памятаюць у Літве

У горадзе Бірштонас, дзе Нікадзім Сіліванові пэўны час жыў і меў дом, таксама адзначылі 180-год з дня нараджэння творцы. Нядаўна там адбылася навуковая канферэнцыя, у якой удзельнічала віляйчанка **Святлана Чабатар**.

Яна расказала пра канферэнцыю і горад, паказала відэапрывітанне ад літоўскіх калег.

Мастак Эдуард Мацюшонак прэзентаваў сваю працу, прысвечаную Нікадзіму Сілівановічу.

Атмасферу 19 стагоддзя на вечарыне дапамагла стварыць музыка, якую выконваў узорны ансамбль гітарыстаў "Адэліта" (салістка **Святлана Раманюк**).

Закончылася ўсё сімвалічным перфомансам. Прысутныя склалі мазаіку з паперы. А на фоне пейзажу з'явіўся подпіс, якім мастак падпісваў свае карціны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ". Нікадзім Сілівановіч** – вядомы партрэтыст і мазаіст, акадэмік Імператарскай акадэміі мастацтваў. Сярод іншага працаваў над мазаікамі Ісаакіеўскага сабора ў Санкт-Пецярбургу (больш падрабязна пра мастака чытайце ў мінулых нумарах "РГ" і на сайце rh.by). У гонар Нікадзіма Сілівановіча названая выставачная зала Вілейскага краязнаўчага музея.

● АФІЦЫЙНА

## Маладыя спецыялісты сустракаліся з кіраўніцтвам раёна

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры 19 снежня прайшоў Дзень маладога спецыяліста. Прынялі ў ім удзел каля 60 выпускнікоў навучальных устаноў, якія сёлета прыбылі працаваць на Мядзельшчыну.**

Для іх правялі экскурсію па музеі народнай славы. Кветкі да помніка Максіма Танка даручылі ўсклаcці выпускнікам Сваткаўскай школы, дзе колісь вучыўся народны паэт.

У гарадскім Доме культуры адбылася сустрэча з кіраўніцтвам раёна на чале са старшынёй райвыканкама **Іллёй Шацько**. Творчыя калектывы Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў выступілі з адметным канцэртам.

Усяго сёлета на Мядзельшчыну прыехалі 208 маладых спецыялістаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● СУСЕДЗІ

## У Львове перапахавалі парэшткі Івана Фёдарава

**ВІЛЕЙКА. У Львове 18 снежня адбылося пахаванне парэшткаў першадрукара Украіны і Расіі Івана Фёдарава. Прайшло яно ў царкве манастыра Святога Ануфрыя, паведамляе newsru.ua.**

Пасля завяршэння літургіі ракію з парэшткамі Івана Фёдарава заклалі ў сцяну храма. Адбылося асвячэнне надмагілля друкара.

Пахаванне друкара ў Львове ў манастырскім храме знайшоў у пачатку 70-х вядомы мастацтвазнаўца **Барыс Вазніцкі**. Ён адразу сцвярджаў, што парэшткі належаць Івану Фёдараву. Тады іх перанеслі ў музей старажытнай кнігі ў Львове і толькі праз 43 гады атрымалася правесці экспертызу.

Некалькі год таму вілейскія даследчыкі выказалі гіпотэзу, што Іван Фёдараў паходзіць з Вілейшчыны.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КУЛЬТУРА

## На Еўрабачанне едуць Uzari і Maimuna. Дар'я з Вілейкі – 11-я

**ВІЛЕЙКА. Пераможцы на 10 балаў апярэдзілі Настассю Малашкевіч, якая заняла другое месца. Гюнэш стала трэцяй. "Мілкі" Аляксандра Рыбака – толькі чацвертыя, паведамляе euroradio.fm.**

Усяго ў нацыянальным фінале бралі ўдзел 15 выканаўцаў. Сёлета прадстаўніка Беларусі выбіралі па новай схеме: 7 галасоў ад журы і толькі 1 ад гледачоў, якія галасавалі з дапамогай смс-паведамленняў і тэлефанаванняў.

Спачатку арганізатары агучылі вынікі народнага галасавання, згодна з якім выканаўцам расставілі балы ад 3 да 12. На першае месца выйшаў брэсцкі гурт Muzzart, на другое – Мілкі, трэцяе – Uzari & Maimuna.

Далей 7 чалавек журы выстаўлялі выканаўцам свае 10 ацэнак.

У выніку Uzari & Maimuna, набраўшы 76 балаў, занялі першае месца. Спявачка Дарыя (**Дар'я Урызчанка**), якая раней жыла ў Вілейцы, заняла 11-е месца.

**Аддзел інфармацыі.**

● АФІЦЫЙНА

## У 2015 годзе ў рэгіёне стане больш жылых дамоў, а ў Смаргоні – магазінаў

**Што запланавана пабудаваць у 2015 годзе? Ці з'явяцца ў гарадах новыя бальніцы, школы ці нейкія іншыя будынкі? З такім пытаннем мы звярнуліся да спецыялістаў па архітэктуры і будаўніцтве з Валожына, Вілейкі, Маладзечна, Смаргоні і Астраўца.**

Амаль усе спецыялісты падчас размовы падкрэслілі тое, што яны называюць як будынкі, якія ўжо будуюцца, так і толькі запланаваныя праекты. І ўва многім будаўніцтва новых магазінаў, дамоў будзе залежаць ад фінансавання.

**МАЛАДЗЕЧНА.** – Галоўным праектам на 2015 год будзе школа-дзіцячы садок у 11 мікраёне, – адказала на пытанне "Рэгіянальнай газеце" загадчыца аддзела архітэктуры і будаўніцтва Маладзечанскага райвыканкама **Святлана Хрусталёва**.

Акрамя таго, у горадзе запланавана будаўніцтва жылых дамоў, гандлёвых аб'ектаў.

**ВІЛЕЙКА.** У 2015 годзе ў Вілейцы плануецца пабудаваць 60-кватэрны арэндны жылы дом і такі ж дом, які будуецца па дзяржзаказе. Абодва гэтыя дамы плануюць увесці ў эксплуатацыю ў 2015-м. Арэндны дом у жніўні-верасні, дом па дзяржзаказе – у снежні.

**ВАЛОЖЫН.** Дырэктар упраўлення капітальнага будаўніцтва Валожына **Святлана Селятыцкая** адказала, што ў 2015 годзе планyюць пабудаваць 60-кватэрны жылы дом.

**СМАРГОНЬ.** Галоўны архітэктар Смаргоні **Алена Сташкевіч** падзялілася планамі на 2015 год:

– Па-першае, у горадзе будуюцца чатыры жылыя дамы. Таксама горад у 2015 годзе абзавядзецца магазінам мэблі, жаночага адзення, электраінструментаў.

На выездзе з горада у напрамку Маладзечна плануюць пабудаваць гандлёвы аб'ект. У ім размесцяцца гандлёвы і забаўляльны цэнтры. Будуецца кавярня па вуліцы Заводскай.

Не толькі ў самім горадзе ідзе будаўніцтва. Непадалёк ад Крэўскага возера будзе прыдарожны аб'ект з гасцініцай і пунктам грамадскага харчавання.

Акрамя пералічанага, у Смаргоні пабудуюць духоўны праваслаўны цэнтр. Цяпер будуецца касцёл на выездзе з горада ў напрамку Ашмянаў.

На 2015 год запланаванае будаўніцтва сонечнай электрастанцыі. Цяпер для яе будаўніцтва рыхтуецца дакументацыя.

– У Смаргоні размесціцца цэх забою і перапрацоўкі птушкі, будуецца гандлёвы аб'ект па вуліцы Камінскага. Магу сказаць дакладна, што аблічча горада ў наступным годзе моцна зменіцца, – падвяла рысу ў размове Алена Сташкевіч.

**АСТРАВЕЦ.** – Толькі нядаўна ў Астраўцы пачала працаваць школа і дзіцячы садок, – сказаў начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Астравецкага райвыканкама **Віталь Мацкевіч**.

У 2015 годзе ў Астраўцы пабудуюць бальніцу, гіпермаркет, трохзорную гасцініцу. На гэты год запланавана ўвесці ў эксплуатацыю 30 тысяч квадратных метраў жылля.

**Наталля ТУР.**

● ДУХОЎНАСЦЬ

## Будслаўскі фэст у 2015 годзе пройдзе 3-4 ліпеня

**МЯДЗЕЛ. Пра гэта паведаміў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. Адбылося гэта на калядны сустрэчы з журналістамі і працаўнікамі СМІ, паведамляе catholic.by.**

Сярод іншых важных падзей, якія чакаюць касцёл у Беларусі ў 2015 годзе і адбудуцца ў нашым рэгіёне, – малітоўная сустрэча моладзі ў Івянцы. Яна пройдзе 24-26 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**



НАШЫ ГРОШЫ

# У час ажыятажу купілі ўдвая больш тэхнікі

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад 18 снежня павялічыўся попыт на валюту. Калі яе немагчыма было набыць у абменніках, людзі дзяжурылі перад банкамі, абменнікамі і чакалі, пакуль нехта прыйдзе яе здаваць. Пасля многія пачалі скупляць бытавую тэхніку.**

**Таццяна Марцінкевіч**, загадчыца магазіна па продажы бытавой тэхнікі ў Маладзечне, 19 снежня адзначала, што наведнікаў стала больш ад вечара 18 снежня.




Гэтак жа, як і ў Расіі, ажыятаж на тэхніку быў і ў Маладзечне.

Фота nqs24.ru.

### Людзі куплялі ўсё

– Купляюць бытавыя тавары, лічбавую тэхніку. Асаблівым попытам карыстаюцца тэлефоны, тэлевізары. Аднак пакупнікі не кідаюцца на тэхніку, толькі б купіць, – адзначае жанчына. – Просяць кансультацыі спецыялістаў, раяцца з імі.

Да павелічэння пакупнікоў у выхадныя кіраўніцтва магазіна падрыхтавалася загадзя – на работу выйшлі тыя спецыялісты, якія былі на выхадных. Працавала 45 чалавек. У звычайныя дні – 35.

### Бралі і па некалькі відаў тавараў

Увечары ў магазіне было каля 1200 наведнікаў.

– Нягледзячы на тое, што людзей было многа, – гаворыць Таццяна Марцінкевіч, – яны спакойна паводзілі сябе, бо выдатна разумелі, што самі стварылі ажыятаж. Такая сітуацыя была і ў суботу. Ужо ў нядзелю, калі людзі сталі заўважаць, што тэхнікі становіцца менш і яны могуць не купіць таго, што хацелі, некаторыя пачыналі сварыцца, даказваць, што былі ў чарзе раней. Аднак скандалаў не было, проста некаторыя выказвалі сваё незадавальненне.

### На выхадных было каля чатырох тысяч чалавек

У звычайныя выхадныя – 1800.

Загадчыца магазіна па продажы бытавой тэхнікі адзначае, што цяпер попыт на тэхніку не такі вялікі, як у выхадныя ад 19 да 21 снежня. Хаця ён па-ранейшаму застаецца.

– Напрыклад, учора, 29 снежня, – гаворыць Таццяна Марцінкевіч, – у магазіне было 1985 чалавек.

Спецыяліст кажа, што людзі куплялі тавары ў крэдыт, бралі іх у лізінг. У растэрміноўку тавараў пакуль не даюць.

Большасць тэхнікі, якую раскупілі, цяпер ёсць у продажы. Але загадчыца адзначае, што асартымент не такі вялікі, як раней.

### Прадалі тэхнікі ўдвая больш

Адна з крамаў у Маладзечне, якая гандлюе бытавой тэхнікай, за выхадныя, ад 19 да 21 снежня, прадала бытавой тэхнікі прыблізна на 100 мільёнаў рублёў. У звычайныя выхадныя выручка складае каля 50 мільёнаў рублёў.

У краме адзначылі, што пераважна куплялі халадзільнікі, тэлевізары, пральныя машыны.

**Галіна СІНІЦА.**

МЕДЫЦЫНА

# Хварэць на грып пачнуць у лютым

**АСТРАВЕЦ, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ. Як нам паведамілі ў цэнтральных раённых бальніцах рэгіёна, захворванняў на грып пакуль не было. Ёсць адзінкавыя выпадкі вірусней інфекцыі.**

**ВАЛОЖЫН.** Галоўны доктар цэнтральнай раённай бальніцы ў Валожыне **Яраслаў Мянцюк** адзначыў, што пакуль не было выпадкаў захворванняў на грып. Прагназуюць, што ён прыйдзе ў лютым.

– Усё будзе залежаць ад надвор'я, – заўважае галоўны доктар. – Калі не будзе халодна, то гэта будзе спрыяць захворванням. Тым больш, што імунітэт у людзей будзе больш аслаблены.

У якасці прафілактыкі доктар раіць ужываць больш садавіны і гародніны.

– Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на прадукты, у якіх ёсць вітамін С, – адзначае Яраслаў Мянцюк. – Гэта цытрусавыя, шыпшына, капуста, ківі, перац. Таксама карысна ўжываць цыбулю, часнок. Не варта злоўжываць гэтымі прадуктамі, але ў рацыёне яны павінны быць.

### Вялікіх успышак грыпу не прагназуюць

У Валожыне вакцыніравалі 40% насельніцтва.

Найбольш падвержаныя захворванню людзі, якія своечасова не зрабілі прышчэпку і якія працуюць у месцах скаплення людзей.

– Прышчэпку супраць грыпу лепш рабіць восенню, – раіць доктар. – Арганізму патрэбны час, каб адаптавацца. Калі ж вакцыніравацца ў час успышак грыпу, гэта не эфектыўна – ёсць небяспека, што арганізм не прывыкне да прышчэпкі.

### Грып часта блытаюць з ВРВІ

Калі чалавек хварэе на грып і пасля вакцынацыі, то хвароба будзе працякаць у больш лёгкай форме.

Яраслаў Мянцюк гаворыць, што грып часта блытаюць з вострымі рэспіраторнымі віруснымі інфекцыямі (ВРВІ). Аднак грып больш небяспечны – пры ім большая верагоднасць ускладненняў: пнеўманіі, бранхітаў, гаймарытаў, ангіны. У людзей з хранічнымі захворваннямі ўскладненні могуць быць на іх. Падчас грыпу паднімаецца больш высокая тэмпература – да 40.

**ВІЛЕЙКА.** У Вілейцы таксама пакуль няма ўспышак грыпу. Прагназуюць, што грып прыйдзе ў канцы студзеня, пачатку лютага. Вакцыніравана 40% насельніцтва, каля 18 тысяч чалавек. Пра гэта паведаміла **Таццяна Рамэра**, загадчыца паліклінікі.

**Галіна СІНІЦА.**

ЛІЧБА НУМАРА

**90** міліграмаў у суткі — С

фізіялагічная неабходнасць вітаміну С для дарослых

Для дзяцей — ад 30 да 90 міліграмаў у суткі

Колькі міліграмаў вітаміну С у 100 грамах садавіны:

- у ківі — 90
- у суніцах — 60
- у цытрусавых — ад 38 да 60
- у яблыках — 4,6

Паводле нормаў фізіялагічных патрэбаў у энергіі і харчовых рэчываў

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

| Курсы валют НБ РБ | 24.12 | 30.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 10 950,00 | 11 800,00 |
| Еўра | 13 400,00 | 14 380,00 |
| Злоты | 3 140,28 | 3 343,68 |
| Літ | 3 879,68 | 4 167,11 |
| Расійскі рубель | 202,50 | 206,00 |
| Грыўня | 688,25 | 747,81 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Еўра | 16880/13665 | 16580/14665 |
| Долар ЗША | 13770/11145 | 13600/12035 |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 23.12 | 30.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | 139900 |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | 54950 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | 28900 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 38600 | 38600 |
| Селядзец, 1 кг | 36400 | 36400 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 108000 | 104000 |
| Рыс, 0,9 кг | 11700 | 12600 |
| Грэчка, 0,8 кг | 13000 | 13000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | 14000 |
| Алей "Масловія" | 16650 | 17000 |
| Маянэз, 200 г | 6500 | 6100 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 12000 | 12500 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | 35000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 11500 | 12500 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | 5500 |
| Капуста, 1 кг | 4000 | 5500 |
| Морква, 1 кг | 4500 | 5500 |
| Буракі, 1 кг | 4500 | 4500 |
| Лімоны, 1 кг | 24000 | 24900 |
| Апельсіны, 1 кг | 17500 | 17500 |
| Мандарыны, 1 кг | 16500 | 22500 |
| Памідоры, 1 кг | 20000 | 34000 |
| Агуркі, 1 кг | 31000 | 35000 |
| Перац, 1 кг | 32500 | 35000 |
| Вінаград, 1 кг | 25000 | 25000 |
| Бананы, 1 кг | 18500 | 15500 |
| Хурма, 1 кг | 25000 | 27000 |
| Яблыкі, 1 кг | 9500 | 10200 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 20500 | 20500 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | - | 15000 |
| Масла, 1 кг | - | 100000 |
| Тварог, 1 кг | - | 55000 |
| Бульба, 1 кг | 4500 | 4500 |
| Сала, 1 кг | 100000 | 100000 |
| Яйкі, 1 дзясятак | - | 25000 |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | 50000 |


Фота leadingnotes.org

Кадр з кліпа спевакоў Рыяны і Эмінема “Мне падабаецца, як ты хлусіш”, прысвечанаму дамашняму гвалту.

● ПРАКУРАТУРА, СУД

# Бацька чатырох дзяцей збіваў жонку

**АШМЯНЫ. Дзякуючы дзецям, якія знаходзяцца на ўтрыманні, суд прызначыў Аляксею самае мяккае пакаранне – шэсць месяцаў арышту.**

Мужчына некалькі разоў збіваў жонку, калі быў п'яны.

### Дагнаў жонку і біў кулакамі і нагамі

Першы выпадак адбыўся 2 ліпеня. Пасля абеду ён быў выпіўшы, пасканддаліў з жонкай і некалькі разоў ударыў кулаком па твары і тулаве. Скандаліці наконт таго, што муж піў.

Падобная сітуацыя адбылася 20 ліпеня. Аляксей выпіў, пасварыўся і двойчы ўдарыў жонку кулаком па твары. У жанчыны ад гэтага быў кровападцёк на правым воку.

4 жніўня днём ён п'яны пасварыўся з жонкай. Кінуў у яе рукзак з рэчамі. Жонка выбегла з дому. Аляксей дагнаў яе ў суседнім двары і паваліў на зямлю. Не менш за пяць разоў ударыў кулакамі і нагамі па галаве, руках, спіне.

**У жанчыны быў пералом носу, тры сінякі на лбе, на спіне, на локці, кровападцёк на левым воку.**

Тут за жанчыну заступілася суседка, прыкрыкнуўшы. Аляксей вярнуўся ў дом. Тым часам прыехаў участковы інспектар міліцыі. Аляксей выбег з дому праз акно і схаваўся ў кустах. Міліцыянер разам з гаспадыняй вырашылі паехаць на медагляд, каб прыцягнуць мужа да адказнасці. Эксперт не змог іх прыняць, таму вярнуліся дадому каля 16 гадзін.

Гаспадар у гэты час спаў у доме.

### Пагражаў міліцыянеру расправіцца з яго сям'ёй

Калі прачнуўся, то ўбачыў машыну таго ж міліцыянера. Жонка збіралася з дзецьмі з'ехаць. Аляксей абурыўся і патрабаваў, каб жонка засталася. Тая ж сказала, што паедзе ў бяспечнае месца і села з дзецьмі ў машыну інспектара. Мужчына падбег да машыны і спрабаваў адчыніць дзверы. Міліцыянер супакойваў гаспадара, казаў, што прывязе сям'ю, выйшаў з машыны і пачаў званіць па мабільным тэлефоне ў міліцыю.

**Аляксей зняў штаны, падбег да міліцыянера і пачаў махаць рукамі яму перад тварам.**

Мужчына спрабаваў вырваць тэлефон, некалькі разоў ударыў інспектара. Пачалі змагацца, упалі на зямлю. Гаспадар парваў міліцэйскую форму. Інспектар змог надзець на мужчыну наручнікі.

На месца прыбыў нарад міліцыі, усіх завезлі ў райаддзел. Па дарозе Аляксей паграджаў участковаму парэзаць яго сям'ю і спаліць машыну.

### Жонка прасіла спагады да мужа

Гаспадыня хацела, каб яе з дзецьмі завезлі да апекуноў, якія выхоўвалі да паўналецця. Тыя заўважалі сінякі і раней, але жанчына тлумачыла іх іншымі прычынамі, не казала, што б'е муж.

Пасля гэтага скандалу яна з дзецьмі жыла тыдзень у апекуноў. Аляксей папрасіў прабачэння і перастаў скандаліць. Жонка на судзе прасіла не судзіць строга, таму што муж пачаў сябе лепш паводзіць.

Суд прызнаў яго вінаватым у наўмысных сістэматычных пабоях. Таксама ў гвалце да супрацоўніка ўнутраных спраў і пагрозе гвалту да яго і яго блізкіх, што перашкаджала законнай дзейнасці. У сукупнасці Аляксея арыштавалі на шэсць месяцаў.

Асуджанаму 27 год, працуе ў будаўнічай фірме ў Ашмянах. У яго з жонкай чацвёра дзяцей: трое сыноў і дачка. Жывуць у адной з вёсак Ашмяншчыны.

**Аляксандр ЛЯХ,**
**памочнік пракурора Ашмянскага раёна.**

● БАРАЦЬБА З НАРКАЗЛАЧЫННАСЦЮ

## Больш злачынстваў, звязаных са збытам наркотыкаў і псіхатропаў

**Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці прааналізавала практыку расследавання крымінальных спраў, узбуджаных па фактах незаконнага абароту наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх аналагаў і прэкурсораў.**

Істотна вырасла колькасць цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў, звязаных непасрэдна са збытам наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў.

Калі ў 2012 годзе па фактах незаконнага збыту следчыя ўзбудзілі 88 крымінальных спраў, у 2013 – 119, то на канец 2013 года – звыш 255.

– Гэта сведчыць, з аднаго боку, пра павышэнне актыўнасці праваахоўных органаў па супрацьдзеянні нарказлачыннасці, а з другога – пра значнасць і вастрыню праблемы, – падкрэсліла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Асаблівую трывогу выклікае рост уцягвання непаўналетніх не толькі ва ўжыванне забароненых рэчываў, але і ў незаконны іх абарот. Ад агульнай колькасці крымінальных спраў па факце незаконнага абароту наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў – чвэрць узбуджана ў адносінах да асобаў узростам да 21 года.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЦЭНТР ГІГІЕНЫ

## Праверылі, ці прадаюць шклоамывальнікі

**МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі правёў маніторынг 16 аб'ектаў гандлю.**

Спецыялісты знайшлі расійскі шклоамывальнік “Проматэхнік” у трох месцах. Дзесяць штук на пяць літраў знайшлі ў краме “За рулём Маладзечна”, дзевяць на пяць літраў у “МолАўтаСтопе” каля платнай стаянкі, у іншай краме гэтай фірмы было чатыры ўпакоўкі на пяць літраў агулам.

Кіраўнікам “За рулём Маладзечна” і “МолАўтаСтоп” далі прадпісанні пра тое, што забіраюць з абароту шклоамывальнікі.

Маніторынг правялі, выконваючы пастанову “Аб спыненні абароту шклоамывальных вадкасцяў для аўтамабіляў”. Паводле яе, забаронены продаж шклоамывальнікаў вытворчасці расійскіх фірмаў “Прайм груп”, “Каліпса”, “Тэхналогія Ойл”, “ПромаТэхнік”, “ХімАўта”, “МедыяГрос”.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,**
**доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў народнага спажывання Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Пройдзе акцыя “Бяспечныя канікулы”

**МАЛАДЗЕЧНА. Яна адбудзецца падчас зімовых школьных канікулаў ад 24 снежня да 11 студзеня.**

Пройдуць сумесныя рэйды супрацоўнікаў міліцыі і прадстаўнікоў установ адукацыі. Асаблівую ўвагу звернуць на школьнікаў, якія парушаюць правілы дарожнага руху. За парушэнні дзецей да адміністрацыйнай адказнасці будуць прыцягваць бацькоў.

Найбольш распаўсюджаныя прычыны, праз якія школьнікі трапляюць у ДТЗ, – гэта пераход дарогі не на пешаходным пераходзе, гульні на дарозе і знаходжанне на ёй без суправаджэння дарослых. Часта пешаходы нечакана выходзяць на дарогу з-за прадметаў, якія абмяжоўваюць увагу кіроўцы. На адзенні адсутнічаюць флікеры.

Сёлета аварый, у якіх былі дзеці, стала больш – 88, летась – 79. Восем дзяцей загінулі, у мінулым годзе – шэсць. 89 пешаходаў пацярпелі. Летась такіх выпадкаў было 80. У Маладзечанскім раёне было восем ДТЗ з удзелам дзяцей. У мінулым годзе – пяць. Восем дзяцей атрымалі пашкоджанні.

**Паводле Уладзіміра МУРЫКАВА, начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, маёра міліцыі.**

● ЗДАРЭННІ

## Скралі грошы ў 85-гадовай жанчыны

**МАЛАДЗЕЧНА. 25 снежня, у чацвер, у 85-гадовай жанчыны скралі 20 мільёнаў 600 тысяч рублёў.**

У гэты дзень да пацярпелай прыйшлі жанчына і мужчына. Яны прадставіліся работнікамі газавай службы. Незнаёмка рабіла выгляд, што правярае, як працуюць газавыя канфоркі, пліта. Мужчына некалькі разоў схадзіў з пакоя.

Невядомыя прабылі ў хаце каля 30 хвілін.

Жанчына заўважыла прапажу грошай каля чатырох гадзін дня, калі ў госці прыйшла суседка. Пацярпелая пачала расказваць, што прыходзілі з газавай службы. Суседка здзівілася гэтаму. Калі пачалі правяраць грошы, то іх не аказалася на месцы. Бабуля хавала іх у розных месцах у шафе.

Гаспадыня невыразна апісала знешнасць падазраваных. Жанчына мажнага целаскладу, ростам каля 160 сантыметраў. Мужчына худы, каля 170 сантыметраў.

Пра здарэнні паведаміў **Юры Багушэвіч**, старшы следчы Следчага камітэта.

**Галіна СІНІЦА.**

## У Вілейцы гарэла кацельня

**ВІЛЕЙКА. Каля апоўначы 27 снежня паступіла паведамленне аб пажары ў памяшканні кацельні. Знаходзіцца яна ў цагляным будынку на тэрыторыі рамонтнага завода.**

На тушэнне пажару выехалі шэсць аўтацыстэрнаў. Па прыбыцці выратавальнікаў кацельня гарэла адкрытым полымем.

Пацярпелых на пажары няма. Агонь пашкодзіў дах на плошчы 40 квадратных метраў і сцены, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Андрэй Балаш**.

Мяркуемая прычына пажару – парушэнне правілаў эксплуатацыі печаў, цеплагенерыруючых агрэгатаў і прылад.

**Аддзел інфармацыі.**



МУЗЫКА

# Музычныя дынастыі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. У музычным каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага пра дынастыі ведаюць не па чутках. Многія гады тут працавалі і працуюць прадстаўнікі сем'яў Сарокаў, Сушкевічаў, Дабравольскіх, Шпадарукоў, Мурзіных, Красніцкіх, іншых.**

Адна з сем'яў, якую можна назваць музычнай дынастыяй, – дырэктара музкаледжа **Рыгора Сарокі**.

Будучы сам музыкантам, аб дасягненнях якога ведаюць многія, Рыгор Сямёнавіч выхаваў дзвюх дачок, якія працягнулі прафесійную сцежку бацькі.

Старэйшая, **Вольга**, скончыла музычнае вучылішча як піяністка, а потым Універсітэт культуры. Цяпер выкладае ў музычным каледжы сусветную культуру.

– Мой сын аддае цяпер перавагу спорту, – адказвае на пытанне пра магчымы працяг дынастыі Вольга. – А вось дачка, як я мару, звяжа лёс з музыкай.

Малодшую дачку, **Таццяну**, яшчэ ў музычнай школе адзначылі на конкурсе ансамбляў імя Агінскага. Яна выкладае ў музычным каледжы, а таксама працуе піяністкай у сімфанічным аркестры, якім кіруе бацька. Сыну Таццяны 9 гадоў. Ён займаецца танцамі, асвойвае фартэпіяна і трубу.












Фота з архіва Юліі АБРАМОВІЧ.

### Сямейная дынастыя Шпадарукоў

Музычная дзейнасць у сям'і Шпадарукоў пачалася з **Юльяна Фёдаравіча** і **Валянціны Мікалаеўны**. Юльян Фёдаравіч скончыў вучылішча баяністам, а Валянціна Мікалаеўна – дамрысткай.

Малодшы сын, **Дзмітры**, быў адзіным у гісторыі музычнага каледжа піяністам, які атрымаў 5 з плюсам па спецыяльнасці на дзяржаўным экзамене. Кансерваторыю ён скончыў пасля войска.

Дзмітры быў першым вучнем свайго старэйшага брата. Сяргей Юльянавіч ад 1980 года працуе ў музычным вучылішчы, узначальвае цыклавую камісію фартэпіяннага аддзялення. Ён выхаваў шмат таленавітых вучняў. Сярод іх лаўрэаты і дыпламанты шматлікіх прэстыжных конкурсаў. Некаторыя з іх працягнулі сваё навучанне за мяжой – у Германіі, Францыі, ЗША. Сямёра выпускнікоў вярнуліся ў музычны каледж імя Агінскага і паспяхова выкладаюць. Сярод іх і **Таццяна Сарока**.












Фота з архіва Юліі АБРАМОВІЧ.

Як распавядаюць самі нашчадкі дынастый, у іх сем'ях выхаванне і сама атмасфера натхняе стаць прафесіяналам, годным свайго імя.

### Родапачынальнік музычных дынастый – Бах

Ёган Себасцьян Бах – нямецкі кампазітар 18 стагоддзя. Прайшло ўжо больш за дзвесце гадоў з дня смерці, а цікавасць да яго музыкі ўсё ўзрастае.

Хаця пры жыцці кампазітар не атрымаў прызнання. Цікавасць да музыкі паўстала амаль праз сто гадоў пасля смерці. Пры жыцці яго музыку не разумелі, лічылі складанай, нямоднай, з-за гэтага не выконвалі і ў неўзабаве зусім забыліся. Толькі ў 1829 годзе пад кіраўніцтвам нямецкага кампазітара Мендэльсона публічна выканалі найвялікшы твор Баха "Жарсці па Мацвею". Сёння ж музыкі ўсяго свету выконваюць музыку Баха, дзівячыся яе прыгажосці і натхненню, майстэрству і дасканаласці.

Продкі Баха здаўна славіліся сваёй музычнасцю. Вядома, што прапрадзед кампазітара, булачнік па прафесіі, іграў на цытры (струнны шчыпковы музычны інструмент, які атрымаў найбольшае распаўсюджванне ў Аўстрыі і Германіі). З роду Бахаў выходзілі флейтысты, трубачы, арганісты, скрыпачы. У рэшце рэшт, кожнага музыку ў Германіі пачалі называць Бахам і кожнага Баха – музыкам.

Гэта выдатны ўзор, як менавіта ў сямейнай дынастыі закладаюць зерне таго, што потым можа вырасці ў вялікае і натхняльнае.

**Юлія АБРАМОВІЧ,**
**Маладзечна.**

ЗАХАПЛЕННІ

## Красненскі кандыдат навук – майстар-чараўніца

**МАЛАДЗЕЧНА. Людміла Строк з Краснага не проста кандыдат навук, дацэнт кафедры рускай мовы як замежнай, але яшчэ і творчы чалавек. Яе дом – гэта дамашні музей ручных работ: саламяных лялек, карзін, гліняных звяркоў і скураных упрыгожванняў.**

Адзін пакой выглядае як сапраўдны кітайскі куток: ён прысвечаны студэнтцы Людміле з Кітая.

У мястэчку двор Людмілы выбіваецца незвычайным афармленнем: незвычайныя клумбы з кветкамі, фігуры-статуэткі, а дах дома ў выглядзе чатырохвугольных вежаў.

**Людміла Строк – кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры рускай мовы як замежнай БДУ, аўтар больш за 60 дапаможнікаў для школьнікаў і настаўнікаў, студэнтаў і выкладчыкаў.**

Але ў дадатак яна захапляецца майстраваннем. У доме безліч вырабаў з саломкі, на паліцах лялькі ў беларускім адзенні, шматлікія ўпрыгожванні. А на стале сярод кніг ляжаць адрэзы тканін, кавалачкі скуры, пацеркі.

– Я шмат чым спрабавала займацца, – распавядае жанчына. – І малявала, і лепкай з гліны займалася, і вышывала. Я тады яшчэ ў Красненскай школе працавала настаўніцай рускай мовы, 29 год. Быў у нас гурток "Спадчына", дзе вывучалі гісторыю роднага краю і вучыліся працаваць з саломай, паперай, ільнянымі ніткамі. Цяпер упрыгожваю бутэлькі, дэкарырую скурай, пацеркамі, ніткамі. Бывае, людзі прыносяць пустыя, просяць каб зрабіла падарунак. Зрабіла з непатрэбнага падручнага матэрыялу вазу, абкруціла ільнянымі вяроўкамі, упрыгожыла кветкамі са скуры – пакойчык стаў прыгажэйшым, і сабе прыемна.

На тумбачках стаяць бутэлькі самых розных формаў. З іх Людміла зрабіла чалавечкаў у яркіх касцюмах і нават з капялюшыкамі. Абкручвае бутэлькі рознакаляровымі ільнянымі ніткамі, упрыгожвае саломай, тканінай, пацерачкамі, потым размалёўвае іх.

У адным з пакояў Людміла размясціла вялікі веер. Пазнаёміўшыся з кітайскай культурай, яна вырашыла зрабіць беларускі. Ён больш за паўметра, зроблены з драўляных лінеек, прыгожа выразаных і аздобленых на канцах стужкамі з беларускім арнаментам. У сярэдзіну веера прымацаваны саламяны званочак.

На другім паверсе дома ёсць пакой, у які Людміла пасяліла сваю госцю, студэнтку з Кітая. Калі дзяўчына вучылася на першым курсе, была адзінай, хто больш-менш разумеў рускую мову сярод іншых аднагрупнікаў-кітайцаў. Тады Людміла вырашыла ўзяць яе ў памочніцы, падрыхтоўвала студэнтку паглыблена.

**Кацярына КАСЦЕВІЧ,**
**Краснае.**



Фота Кацярыны КАСЦЕВІЧ.

**Людміла Строк з Краснага, кандыдат навук і майстрыха.**



Фота Кацярыны КАСЦЕВІЧ.

**Стварыць прыгожы сувенір з бутэлькі для майстра проста. І настрой сабе падымеш, і пакой упрыгожыш.**

ПРЭМ'ЕРЫ

# Яны сышліся ў "Тупіку"

## Якую гісторыю паказвае рэжысёр Юры Вута ў новым спектаклі Мінскага абласнога драмтэатра

**МАЛАДЗЕЧНА. Яна выпадкова забіла мужа. Ён вельмі ўскосна датычны да смерці сваёй жонкі. Ноччу ў бары "Тупік" на вакзале яны чакаюць цягнік.**

Рэжысёр **Юры Вута** падбіраў п'есу пад **Алену Рахмангулаву**, якая выконвае галоўную ролю. Яе гераіня – прывакзальная незнаёмка, што толькі выйшла з турмы за ненаўмыснае забойства мужа.

У пары з ёй іграе **Аляксей Карпец**. Па спектаклі ён тэлезорка, што застаўся на вакзале на ноч. Яму відавочна сумна і не хапае кампаніі. Угледзеўшы незнаёмку, ён да яе падсаджваецца, і пачынаецца дзеянне.

Вось ён пайшоў заказаць выпіўку, а яна ціхенька крадзе ў яго грошы. Вось яна ўжо прызнаецца ў гэтым і грошы вяртае. Вось ён дорыць ёй іх. Аддае яшчэ і гадзіннік.

Розніца ў манерах гэтых дваіх выпадковых знаёмых выглядае камедыйна. У гледачоў часам вырываюцца смяшкі. Колкасць і бесцырымоннасць учарашняй турэмшчыцы крыху хаваецца за відавочнай сімпатыяй да гэтага галантнага мужчыны.



Фота Настасі РОЎДЫ.

Сцэна з прэм'ернага спектакля "Вакзал на траіх". Прывакзальная незнаёмка (Алена Рахмангулава) абдымае тэлезорку (Аляксей Карпец) пасля ночы ў гасцініцы.

**У спектаклі шмат дзеяння: танцы, бойкі, спевы. Галоўная гераіня некалькі разоў пераапранаецца.**

Па меры таго, як змяншаецца колькасць алкаголю ў бутэльках, прыязнасць іх адзін да аднаго расце. І кульмінацыяй становіцца шчырая размова, дзе яна прызнаецца, што толькі выйшла з турмы, сядзела за забойства мужа. А ён – што ў гэты дзень памінае сваю жонку, якая загінула праз яго залішні клопат.

### Трэці герой – бармен

У дыялогі і сваркі гэтай парачкі час ад часу ўлазіць бармен. Яго ролю выконвае **Аляксандр Каласніцын**. Ён адразу пазнае зорку, просіць аўтограф. Сварыцца з прывакзальнай незнаёмкай і амаль з ёй б'ецца.

Але ў моманце, калі яны застаюцца ўдваіх і ён даведваецца пра турэмнае мінулае жанчыны, нечакана абрадваецца такой сустрэчы. Аказваецца, яго дзяўчына сядзіць. І наша гераіня яе нават ведае. Аднак аб'яўляе, што ў бойцы яе там забілі.

Хлопец гаруе нядоўга. Хутка ўся тройца падобная на лепшых сяброў.

### Пасля бара – гасцініца

Але барам спектакль не заканчваецца. Зорка прачынаецца ў гасцініцы. І не паспявае апамятацца, як заяўляецца наша гераіня з круасанамі і абдымкамі.

**Спектакль "Вакзал на траіх" – трагіфарс. Дакладней – камедыя характараў, дзе ў іранічнай форме распавядаецца пра гісторыю трох розных людзей, вымушаных правесці разам некалькі гадзін.**

Прыходзіць і бармен з гітарай. І пачынаецца частковае ўзнаўленне ходу падзей ночы.

Тут зорцы тэлефануюць і кажуць, што яго звольнілі, яго пасаду заняў лепшы сябар. І разам з пасадай звёў дзяўчыну.

А наш герой застаецца з гэтымі абаімі выпадковымі знаёмымі. Яны тут падаюцца яму сябрамі.

Але, нягледзячы на тое, што ў гісторыі шмат трагізму, канцоўка нечаканая і шчаслівая.

### Рэжысёр: "Усе спектаклі пра каханне"

Калі ў п'есе ёсць слова мама ці слова каханне – спектакль можна ставіць, маркуе Юры Вута. Тут каханне ёсць.

– Пра што спектакль? Пра здольнасць чалавека на ўчынак. Тут барацьба дабра са злом у самых розных праявах.

Француженка напісала пра свайго сябра праўдзівую гісторыю, якая тут узятая за аснову. Потым з гэтай гісторыі зрабілі п'есу, у якой рэжысёр убачыў сваю тэму.

– Як мяняецца чалавек ад абставінаў, якія на яго ўплываюць. І што такое чалавечнасць.

Кожны бачыць свой спектакль: пазнавальныя сітуацыя, падобныя характары. Жыццё – складаная рэч. І ці зможа чалавек выстаяць? Цяпер сыходзіць ад нас дабрыня чалавечых адносінаў. Спачатку грошы, потым усё астатняе. А ёсць нешта, што можна ахвяраваць. Пра што спектакль? Адкрывай Біблію, у любую старонку ткні і кажы: вось пра тое ці вось пра гэта.

Як зазначае рэжысёр, трагіфарс – складаны жанр. Як у дарожным руху, і ў трагедыі, і ў камедыі свае правілы. Важна правільна закампанаваць. І разабрацца, дзе трагедыя, а дзе камедыя. Бываюць такія звароты, што сітуацыя, якая здаецца камічнай, выклікае іншыя пачуцці і слёзы на вачах.

У наступным нумары "РГ" глядзіце рэпертуар Мінскага абласнога драмтэатра.

**Настасся РОЎДА.**



Фота забяспечана Уладзімірам ЦЕРАБУНОМ.

**Выйшла новая кніга, прысвечаная творчасці скульптара са Смаргоні Уладзіміра Церабуна. Яна падобная па дызайне на папярэднюю, аднак тут змешчаныя і апошнія працы творцы. Як, да прыкладу, мемарыяльны комплекс у Смаргоні "Рэха вайны", прысвечаны падзеям Першай сусветнай. Яго вы бачыце на фота.**

КНІГІ

# Выходзіць новы альбом Церабуна: якасць лепшая, прац больш

**СМАРГОНЬ. Прэзентацыя альбома пройдзе ў студзені. З ёй беларускі скульптар Уладзімір Церабун плануе завітаць у Смаргонь, Гродна, Мінск.**

Новы альбом творцы – нашчадак папярэдняга каталога. Яго дызайн фактычна не памяняўся. Але змяніўся змест.

Дадаліся новыя працы, зробленыя за два апошнія гады. У Смаргоні за гэты час паспела з'явіцца не толькі скульптурная кампазіцыя ў парку "Мядзведжая акадэмія" і памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам Смаргоншчыны "Рэха вайны". З'явіўся мемарыяльны комплекс па лініі супрацьстаяння ў Першую сусветную. Скульптар уваходзіць у аўтарскі калектыў, які працаваў над комплексам.

Яго будавалі да стагоддзя ад пачатку вайны і першага жніўня там ладзілі мітынг-рэквіем. Аднак будаўніцтва яшчэ працягваецца.

Акрамя гэтага, у Слоніме з'явіўся помнік афганцам "Пайшлі ў бессмяроцце", створаны скульптарам.

У зборніку цяпер таксама можна будзе знайсці працы, звязаныя з керамікай, жывапісам, графікай аўтара. Праекты скульптур, якія пакуль што застаюцца праектамі. Сёння іх 34.

Ёсць тут і фота з выстаў Уладзіміра Васільевіча.

**За 40 гадоў у скульптара прайшло 16 персанальных выстаў.**

Ёсць тут і пра самога аўтара. Яго сямейныя фота, фота са старых альбомаў, гісторыя, разважанні скульптара, артыкулы мастацтвазнаўцаў.

### Друкуюць у Вільні

Скульптар заўважае, што якасць кнігі, у параўнанні з папярэдняй, нашмат лепшая.

Гэта звязана з тым, што прымяняюць новую тэхналогію друку.

У кнізе 70 старонак, больш за 100 ілюстрацый. Наклад – 500 экзэмпляраў.

Вядома, усе працы творцы змясціць немагчыма. Ён займаецца не толькі скульптурай, але і жывапісам, керамікай, графікай.

Назваць дакладную агульную лічбу сваіх прац творца не бярэцца. Прыкладная – 2000.

З іх 22 манументальныя месцяцца па ўсёй краіне.

### Дапамагае дачка

Апошнія 13 гадоў увасабляць задуманае на паперы ў жыцці дапамагае дачка скульптара Наталля.

Яна скончыла Акадэмію мастацтваў, цяпер працуе дызайнерам.

Ужо ўздзельнічала ў стварэнні каля дзесяці манументальных прац Уладзіміра Церабуна.

**Даведка РГ. Уладзімір Церабун** нарадзіўся 11 красавіка 1946 года ў вёсцы Несцяняты на Смаргоншчыне. Вучыўся ў СШ№1 у Смаргоні. Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, аддзяленне скульптуры (цяпер Акадэмія мастацтваў). Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, ганаровы грамадзянін Смаргоні.

**Настасся РОЎДА.**



**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна** могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.

**☎166**

Рэгіянальная газета. Rh.by — ТРАНСПАРТ — Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты! — Вечерний Бобруйск

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• БМВ-525д, 2002 г.в., чорны прабег 209 000 км, у добрым стане. Т. Вэлком (8-029) 6757239.

• ВАЗ-2107, 2003 г.в., 1,6Б, бардовы, сігналізацыя,новая гума, акумулятар, генератар, магнітола Soni MP3, 1650 у.а. у Вілейцы. Т. (8-029) 7663025.*

• Міцубісі-Харызма, 1998 г.в., 1,6 бензін, хэтчбэк. Т. (8-029) 7062834, Андрэй.

• Опель-Вектра, 1993 г.в.,1,7 ТД, 2100 у.а. Т. (8-029) 7038367.*

• Рэно-Меган Сцэнік, 1998 г.в., аб'ём 1,9 ТДІ, прабег 290 тыс.км, кандыцыянер, падагрэў люстэрак, эл. шкляныя пад'ёмнікі, сігналізацыя, імабілайзер, проціватманнікі, 5200 у.а. Т. МТС (8-029) 8582382.

• Сеат-Алхамбра, 2002 г.в., 1,9 ТДІ, мінівэн, сіні, 5 месцаў, добры стан, 9300 у.а. Т. Вэлком (8-029) 6423464.*

• Сітраэн-Ксара, 1998 г.в., універсал, 1,9, ТДІ, цёмна-сіні. Т. (8-029) 7027314.

• ФВ-Джэта, 2006 г.в., 1,9 ТДІ. Т. (8-029) 6536317.*

• ФВ-Пола, 1997 г.в., 1,6 бензін, універсал, чорны перламутр. Т. Вэлком (8-029) 6461164.*

• Фіят-Пунта, 2000 г.в.,1,2 бензін, 3-дзверны, хэтчбэк, салатавы перламутр, 3200 у.а. Т. Вэлком (8-029) 6423464.*

• Форд-Транзіт, 2000 г.в., 2,4 ТД, максібаза, падвышаны, белы, фаркоп, 8981 у.а., можна б/нал. Т. (8-029) 6515383.

• 2 новыя шыны зіма "Debiga" – 195/65/15, 140 у.а., 2 дыскі на 5 балтоў Пасат-Б 5. Т. (8-029) 2802155.

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ** б/у для **НЯМЕЦКІХ І ФРАНЦУЗСКІХ** аўто. Гарантыя, г. Ліда. Дастаўка ў Маладзечна. ІП Малец П.Н. УНП 591319307. Т. (8-029) 9289224, (8-029) 7417597, (8-033) 3761764.*

• **АЎТАЗАПЧАСТКІ Б/У ДЛЯ РЭНО, ПЕЖО, СІТРАЗНАЎ. ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ, ГАРАНТЫЯ,** Маладзечна, вул.Маладзёжная, 10. ІП Еўдакіменка Д.І. УНП 191984027. Т. (8-044) 7149298, (8-029) 8628501.*

• **ЗАПЧАСТКІ** б/у **ДЛЯ ЎСІХ** марак аўто. г. Маладзечна, вул. Маладзёжная,10. ІП Еўдакіменка Д.І., УНП 191984027. Т. (8-029) 8787760, (8-029) 6392287*

• Запчасткі б/у для Аўдзі-В3. Т. (8-029) 5686869.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Гольф 3. Т. (8-029) 6154346.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В3. Т. (8-029) 8777677.*

• Запчасткі б/у для ФВ-Пасат В5, 1999 г.в., 1,9 СДІ, ёсць усё. Т. МТС (8-029) 2569668.*

• Запчасткі б/у для Фіята-Уліс, 2001 г.в., 2,0 ТДІ, ёсць усё. Т. МТС (8-029) 5063202.*

• Запчасткі да Опель-Вектры, 2003 г.в., 2,2 ТДІ, рухавік, турбіна, помпа, падвеска, МККП, кузаўшчына, бамперы, оптыка і іншае. Т. (8-033) 3425134.*

• Запчасткі да Опель-Зафіры, 2004 г.в., 2,0 ТДІ, рухавік, турбіна, МККП, кузаўшчына, оптыка і шмат іншае. Т. (8-033) 3425134.*

• Л/д Рэно-Сцэнік на 16. Т. (8-029) 6370991.

• Рухавік Масквіч-408, новы, на кансервацыі, аб'ём 1,3, 400 у.а. Т. Вэлком (8-029) 3790419.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО, МОЖНА З ПРАБЛЕМАМІ. Т. (8-029) 7649185, (8-029) 9496581.***

• **АЎТО, ХУТКА, ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7652832, (8-029) 9496492.***

• Аўтамабіль любога года выпуску, з любымі праблемамі. Дорага. Т. (8-044) 4625799*

• Аўто 1984-2005 г.в. у любым тэхнічным стане, аварыйнае ці на запчасткі. Т. (8-029) 2635648.*

• Іншамарку за 3000 у.а. Т. (8-029) 3856049.*

### ПАСЛУГІ

• Арэнда самазвалаў МАЗ, 20 тон і 10 тон (дастаўка пяску, шчэбеню, асфальту, вываз смецця), франтальнага пагрузчыка ТА-18, поўнапаваротнага экскаватара, (0,85 куб. м), экскаватара-пагрузчыка, гусенічнага экскаватара, увесь комплекс земляных работ. ТАА "Матэк Про". УНП 695501712. Т. (8-029) 3622022, (8-033) 6686871.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Паслугі эвакуатара Мерседэс 814, грузапад. 4 т. ЧСУП "АльянсБудМол", УНП 691515472. Т. Вэлком (8-029) 6664141.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра з выдатным рамонтам па вул. Драздовіча ў Маладзечне, паверх 2, 34 000 у.а. Т. (8-033) 3260103.

• 1-пакаёвая кватэра з рамонтам 30,5/18/6. Т. Вэлком (8-029) 1494396.*

• 2-пакаёвая кватэра, 4/5 пав., 42 кв.м., лічыльнікі, рамонт, с/в сумешчаны, 46000 у.а., торг. Т. МТС 8611174.

• 3-пакаёвая кватэра (68 кв. м) у р-не з-да "Зеніт", драўляныя двухкамерныя шклопакеты, нямецкая сантэхніка, ламінат. Кватэра ў ідэальным стане. Касметычны рамонт праводзіўся ў 2012 г., 50 000 у.а. Т. (8-029) 6359354.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. Вэлком (8-044) 4838649.

• 4-пакаёвая кватэра ў Чысці. Цана 69000 у.а. Т. (8-044) 7791887, (8-029) 5006804.*

• Дом у в. Папоўцы Вілейскага р-на, можна на вываз, 6х12, 6500 у.а., можна абмен на аўто бензін. Т. (8-029) 7823515, (8-029) 5620232.

• Участак 15 сотак са старым домам па вул. Чарняхоўскага, 40 000 у.а. Т. (8-029) 3232949.*

### ЗДАМ

• 2-пакаёвую кватэру на працяглы тэрмін. Т. (8-029) 6707331.*

### НАЙМУ

• 2-3-пакаёвую кватэру для сям'і на працяглы тэрмін. Т. (8-033) 3870471.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі, юбілеі, карпаратывы на любы густ і пад ваш бюджэт. Т. (8-029) 6188716.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• Відэа-фота ўрачыстасцяў, святаў, карпаратываў. Тэлестудыя «Наш час». УНП 601058195. Т. (8-029) 6201941, (8-0176) 544670.*

• Фота і відэа 16:9 вяселляў, юбілеяў і іншых урачыстасцяў. Слайд-шоу і фотакнігі. Аблічбоўка відэакасет. Параім музыкаў. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека – фургон да 3 тон, даўжыня 3,7 м, санпашпарт, санкніжка. ІП Радзілавец В.А. УНП 691393672. Т. МТС (8-029) 7038367.*

• МАЗ, грузападымальнасць 10 т, па РБ. ІП Чубін В.В. УНП 691509491. Т. МТС 5740702, Вэлком 3108569.*

• МАН бартавы, 20 т, 13,6 м; МАН гідраманіпулятар, 20 т. ІП Шеремет В.В. УНП 691289007. Т. (8-029) 2713567.*

• Мерседэс 814, грузапад. 4 т., даўжыня 6,5 м. ЧСУП "АльянсБудМол", УНП 691515472. Т. Вэлком (8-029) 6664141.*

• Тэнт, да 5 т. ПТУП "Саліра". УНП 691506727. Т. (8-029) 7787574.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Букеты і кампазіцыі з цукерак. Эксклюзіўны падарунак да любога свята. Вілейка, пасведчанне КА 6940531 ад 01.01.14г.. Т. (8-029) 2779900 (Ала)*

• Выраб і ўстаноўка міжпавярховых лесвіц з дрэва. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клаўсюк А.А. УНП 691512274. Т. (8-029) 7792477.*

• Еўрасцяжка за 1 дзень. Т. Вэлком (8-029) 3823187, (8-029) 2335084.*

• **ПАСЛУГІ ЭЛЕКТРЫКА** (рамонт электраабсталявання, мантаж і інш.). **ПРОДАЖ І ЎСТАНОЎКА** сістэм відэаназірання, **ВІДЭАДАМАФОНАЎ, ВІДЭАВОЧКАЎ**. ІП Драгун А.О. УНП 691884197. Т. МТС 7706263, Вэлком 9710597.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА. ГАРАНТЫЯ.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*

• **САКРАТАРСКІЯ ПАСЛУГІ**: ксеракопія, набор тэксту, раздрукоўка каляровая і чорна-белая. Т. (8-025) 6394920. Галаяд Н.Н. *

• **СТУДЫЯ ТАТУ** "Карона Арт" прапануе татуаж броваў, павек і губ, мастацкую татуіроўку. ІП Кушч О.А., УНП 691880191. Т. (8-029) 3345044, (8-029) 7080997.*

• Шафы-купэ, прыхожыя, спальні, дзіцячыя пакоі. ІП Купрэйчык А. П. УНП 690685907. Т. (8-029) 5085160, (8-044) 7899734.*

• **ШОУ** клоўна – дзіцячыя святы, дні нараджэння, віншаванні. Вяселлі, юбілеі, карпаратывы для дарослых, выпускныя вечары. ІП Кананові І.Е. УНП 691501156. Т. (8-029) 8596692 МТС, (8-044) 4904791 Вэлком.*

**Регистрация анкет на визы:**

**польские национальные** (по приглашению, карте поляка) и **шенген** (покупки, деловая, служебная, водители).

**Т. МТС (8-029) 254-25-42, МТС (8-029) 585-16-86, МТС (8-029) 277-01-60.**
**reganketki.com**
ООО «ЧудоСлавия» УНП 591009814

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*

• Сетка рабіца 1,5-1,8 м.в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м.п., вугалок 40 м.п., труба профільная 300 м.п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Катлы. Печы. Лазні. Бетонамяшалкі. Воданагравальнікі. Помпы. Сантэхніка. Ацяпленне. Культыватары. Сайт 940.BY. ІП Глінскі М.М. УНП 190337652. Т. (8-029) 2599940.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫЯ! ЛІЧБАВЫЯ ПРЫЁМНІКІ АД 350000 РУБ.** ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, HD.** Растэрміноўка без %. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ-ЛАЙТ, ЛІЧБАВАЕ ТБ.** Растэрміноўка без % да 12 месяцаў. ГД "Тройка", п. 536. ПГУП "Ліцэраль". УНП 690371107. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ. ІП МАРКАЧ Ю.А. УНП 591732349. Т. (8-029) 3548371***



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Вадап'янава, 23, магазін «Парус». Тэл. **55284.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*





## Размясці сваю аб'яву не менш за , і яе прачытаюць у Інтэрнэце на сайце

**Мэбля**

- Секцыя б/у ў выдатным стане, даўжыня 2,41 м, вышыня 2,09 м, глыбіня 0,48 м. Т. МТС (8-029) 5046737.*

**Музінструмент**

- Піяніна "Беларусь", б/у, Вілейка. Т. (8-029) 5987004, 8156131 (пасля 16.00).*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- Індычка дамашняя, мясная, смачная. Т. (8-029) 6824362, (8-029) 5626000.*
- Кабан. Вілейка. Т. (8-029) 8317821.

**Іншае**

- Б/у (48-50 памеру): мужчынская зімовая куртка, дублёнка, сарочкі, туфлі. Т. (8-029) 5539969.*
- Мяса свойскай гусі (тушкі). Маладзечна, Вілейка, дастаўка. Т. (8-025) 5401403.
- Печ у лазню ў Вілейцы. Т. (8-029) 6165118.*

**КУПЛЮ**

- **Сельгас-, будаўнічую тэхніку, абсталяванне**
- Прычэп самазвальны для Т-25. Т. (8-029) 6265423.*

**АНТЫКВАРЫЯТ**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

**ЗГУБЛЕНА**

- Прапала гончая светла-жоўтай масці ў раёне Касцяневічаў-Даўгінава. Просім паведаміць па тэл. (8-01771) 25393, МТС (8-029)7782619.

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

- Праграміста (праграміраванне ў 1С, у DOS, суправаджэнне задач "Улік ОС", "Улік МЦ","Улік ТМЦ і выпіска са склада", "Калькуляцыйная картачка"). Маладзечна. Т. Вэлком (8-029) 149-08-89, МТС (8-029) 263-88-79.*



## ● КУЛЬТУРА

# Ізбіноўскую бібліятэку адзначылі ў рэспубліканскім конкурсе

**ВІЛЕЙКА. Падвялі вынікі 22-га рэспубліканскага конкурсу "Бібліятэка – асяродак нацыянальнай культуры". У ім прынялі ўдзел 33 публічныя бібліятэкі.**

У намінацыі "За значны ўклад у выхаваўчую работу з падрастаючым пакаленнем" сярод сельскіх бібліятэк журы прысудзіла другую прэмію Ізбіноўскай сельскай бібліятэцы (бібліятэкар **Іна Лазар**).

Бібліятэку адзначылі за праекты "Нефармальнае краязнаўства: мультымедыйная дзейнасць сельскай бібліятэкі" і "Беларуская бібліятэка".

У межах першага праекта створаны цыкл электронных віктарын для дзяцей і дарослых, якія заснаваны на матэрыялах з гісторыі Вілейшчыны.

– У Ізбіноўскай сельскай бібліятэцы вельмі прафесійна пастаўлена работа з дзецьмі і краязнаўчая праца, – кажа загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу Вілейскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Таццяна Камінская**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## ● НАШЫ ГРОШЫ

# Сярэдні заробак у 2015 годзе будзе больш за 7 мільёнаў рублёў

**Новыя паказчыкі былі зацверджаны ў пастанове кіраўніцтва краіны ад 24 снежня.**

Ад студзеня да лістапада намінальны налічаны сярэднямесячны заробак быў 6,03 мільёна рублёў. За мінулы месяц ён зменшыўся на 2,9%. Рэальны заробак, які разлічваецца з улікам росту спажывецкіх цэн на тавары і паслугі, за мінулы месяц стаў меншы на 3,5% у параўнанні з дадзенымі за кастрычнік.

Нацыянальны статыстычны камітэт паведамляе, што ў лістападзе самыя высокія заробкі былі ў будаўніцтве – 7,92 мільёна рублёў, на транспарце і сувязі – 6,88 мільёна рублёў.

Самыя высокія заробкі ў Мінску. У сярэднім мінчане за мінулы месяц зарабілі па 8,9 мільёна рублёў.

**Паводле n1.by.**



# Нямецкі Дзед Мароз на свята прыходзіць з розгамі

**МАЛАДЗЕЧНА. Ці ведаеце вы, што традыцыя ўпрыгожваць на Новы год менавіта ёлку прыйшла да нас з Германіі?**

А вучні 5 "В" класа гімназіі №10 ведаюць, таму што яны адзначылі Новы год па-нямецку ў бібліятэцы "Верасок" 23 снежня.

Мерапрыемства для дзяцей зладзіў аддзел замежнай літаратуры цэнтральнай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча.

Пра навагоднія традыцыі, якіх прытрымліваюцца ў Германіі, мы пагутарылі з арганізатарам мерапрыемства **Таццянай Летуновай.**

– Новы год у Германіі прынята святкаваць не ў ціхім сямейным коле, а шумна і весела. Немцы ў гэты дзень збіраюцца натоўпам на вуліцах, на галоўных плошчах гарадоў, запускаюць феерверкі і салюты, ходзяць у бары і клубы.

Звычай сустракаць Новы год з шумам і песнямі-скокамі звязаны з сярэднявечным павер'ем: лічылася, што шумам можна адагнаць злых духаў. Святкаванне Новага года ў Германіі, як і ў некаторых іншых краінах, называюць Сільвестр – па імені біблейскага святара, які памёр 31 снежня 335 года.



Фота Таццяны ЛЕТУНОВАЙ.

Нямецкі Дзед Мароз – Санкт-Мікалаўс.

## Каб стаць багатым, пакладзіце ў кашалёк луску рыбы

Традыцыйнай стравай на навагоднім стале ў немцаў з'яўляецца запечаны карп, серабрыстая луска якога нагадвае манеткі. У немцаў ёсць прыкмета: каб у кашальку заўсёды былі грошы, трэба туды пакласці луску карпа.

У Новы год на стале абавязкова ставяць ярка распісаную страву з яблыкамі, арэхамі і разынкамі. Традыцыйнай стравай нямецкіх святочных сталоў з'яўляецца пірог штолен і печыва плецхен.

Яшчэ адзін абавязковы атрыбут навагодняга застолля – пернік der Lebekuchen. У эпоху сярэднявечча у Германіі на Новы год гэтыя пернікі рабілі з мукі, цукру і разнак памерам з сапраўдную лаву.

## У Новы год немцы ўскокваюць

Звычай абмену падарункамі ў Германіі на Новы год называецца Бешарунг. Падарункамі ў Германіі абменьваюцца на Каляды, 25 снежня. На Новы год адзін аднаму дораць толькі невялікія сувеніры.



Фота Таццяны ЛЕТУНОВАЙ.

Падчас сустрэчы ў бібліятэцы дзеці не толькі даведваліся пра нямецкія традыцыі, але і ўдзельнічалі ў іх.

Навагоднія падарункі ў Германіі дзецям робіць не Санта-Клаўс. У Новы год дзецям доўгачаканыя падарункі дорыць калядны чалавек па імені Вайнахтсман, які прыходзіць у госці разам з ціхай і абаяльнай Крысткінд. Вайнахтсман прыбраны ў футра, у адной руцэ ён трымае розгі для пакарання гарэз, а таксама мех з падарункамі. Крысткінд уся ў белым, яе твар пакрывае белы вэлюм, у руках яна трымае кошык з яблыкамі, арэхамі і прысмакамі. Каб атрымаць падарунак, нямецкія дзеці таксама чытаюць вершы і спяваюць песні Крысткінд.

На Новы год у Германіі існуе традыцыя: як толькі гадзіны пачынаюць адбіваць дванаццаць разоў, людзі любога ўзросту залазяць на крэслы, сталы і з апошнім ударам ўсе разам, з радаснымі крыкамі, "ускокваюць" у Новы год. Дарэчы, даслоўна немцы зычаць адзін аднаму добрага ўскоквання, уезду ў Новы год.

**Наталля ТУР.**



Фота Таццяны ЛЕТУНОВАЙ.

Святочныя ўпрыгожванні.



## Калядны нямецкі пірог – штолен

100 грамаў міндалю
100 грамаў чорных разынак
100 грамаў жоўтых разынак
Па 50 грамаў розных дробна нарэзаных цукатаў (вішні, ананасу, апельсіну, манга і г.д.)
1 пакецік ванільнага цукру
5 лыжак рому
500 грамаў мукі
60 грамаў свежых прасаваных дражджэй
90 грамаў цукру
140 грамаў цёплага малака
250 грамаў масла
1 жаўток
Шчопця солі

*Для ўпрыгожвання*
100 грамаў масла
150 грамаў цукровай пудры
Мука для пасыпання
Некалькі лістоў паперы для выпечкі

За дзень да падрыхтоўкі цеста ўсе сухафрукты, міндаль і цукаты заліце ромам, змяшайце, і, накрыўшы шчыльна накрыўкай, пакіньце настойвацца суткі.

Прасейце муку. У цэнтры зрабіце лунку і пакрышыце туды свежыя дрожджы. Іх злёгку прысыпце шчопцяй цукру і наліце ў лунку цёплае малако. Праз некаторы час, калі дрожджы падымуцца, дадайце ў місу соль і мяккае масла.

Вымесіце аднароднае цеста. Накрыйце місу з цестам і пастаўце ў цёплае месца, каб паднялося. Пасля таго, як аб'ём цеста павялічыцца ўдвая, дадайце ў яго інгрэдыенты, якія настаяліся ў роме. Зноў пастаўце місу з цестам у цёплае месца.

Стол пасыпце мукой, выкладзеце цеста і сфармуйце штолен.

Выпякайце пры тэмпературы 180-200° С у папярэдне нагрэтай духоўцы каля 40 хвілін. Яшчэ гарачы штолен дастаньце з формы, абсыпце цукровай пудрай. Захоўвайце штолен можна ў харчовай фальзе да некалькіх тыдняў.

# Вільня: на машынах – рогі аленяў, на катах – навагоднія шапкі

**Як сталіца Літвы падрыхтавалася да святаў, высвятлялі карэспандэнткі "РГ". Ці ёсць скідкі і навагодні ажыятаж, а таксама якія навінкі святочных упрыгожванняў з'явіліся сёлета і які пануе настрой.**

У першым вагоне цягніка на Вільню людзей амаль няма. Збольшага вагон пусты. Толькі некалькі галоў бачныя, калі зірнуць у праход. Хаця едзем у пятніцу ўвечары, якраз тады, калі ў большасці беларусаў чатыры выхадныя. Здаецца, добрая нагода павандраваць.

### Вулічныя ўпрыгожванні

На вуліцы мароз. Урэшце ў жанчын ёсць нагода дастаць з шафы футра. І яны ёй з радасцю карыстаюцца.

На гадзінніку каля 10 вечара. Агеньчыкі паўсюль. Адчуванне, быццам віленскія кавярні, рэстараны ды крамы паміж сабой спаборнічаюць на лепшае ўпрыгожванне. Унутры іх і звонку – ёлкі з цацкамі ды агеньчыкамі. Вокны, дзверы, барныя стойкі ўпрыгожаныя штучнымі альбо жывымі лапкамі і шарамі.

Калі ў кагосьці на шыльдзе жывёла з рагамі, то на іх абавязкова навагоднія шапкі.

Ёлак шмат, і яны розныя. На адной з цэнтральных вуліц Старога горада стаіць музычная. Агеньчыкі ўтвараюць ноты стан. На іх – ноты. Уверсе – скрыпічны ключ.

### Фантазія людзей – на вокнах і машынах

Упрыгожваць вокны – ужо амаль зімовая традыцыя. Літоўцы яе актыўна падтрымліваюць і захоўваюць. Сняжынкі, гірлянды, выцінанкі, агеньчыкі бачныя паўсюль.

Некаторыя не абмяжоўваюцца вокнамі і ўпрыгожваюць балконы. Шмат хто садзіць на іх і Дзеда Мароза.

А самыя арыгінальныя ўпрыгожваюць яшчэ і свае машыны. У цэнтры горада прыпаркаваўся "гарадскі алень". Гаспадар прымацаваў да машыны рогі аленя, а спераду на нумар – чырвоны шар, які нагадвае нос.

### На вуліцах людзей няшмат

У суботу раніцай на вуліцах свабодна. Але турысты не спяць і адну вялікую групу мы сустрэлі.

На праспекце Гедыміна некаторыя парачкі спакойна шпацыруюць, хтосьці выгульвае сабаку.

Тут жа на вялікім электронным табло ідзе адлік: колькі часу засталося да таго, як Літва пяройдзе на еўра. Праўда, не заўважна, каб людзі спяшаліся пазбавіцца ад апошніх літаў.

У крамах праца ідзе спакойна. Альбо ўсе ўжо закупіліся, альбо яшчэ не пачалі. Але што ў дробных крамах, што ў найбуйнейшым гандлёвым цэнтры Літвы "Акрополіс" людзей, як звычайна.

Аднак беларусаў у прадуктовай краме гандлёвага цэнтра ўсё ж пазналі:

– Трэба браць, бо ў нас такая кілбаса каштуе 300 тысяч, – казала адна з жанчын ля прылаўка з мяснымі прадуктамі.

Хаця машыны з беларускімі нумарамі на вока не трапілі. Здаецца, сёлета закупляцца ў Вільні шмат хто палічыў нявыгадным.

**У адным з віленскіх абменнікаў курс літа да беларускага рубля такі: 10 000 рублёў = 1,28 літа.**

Вечарам у горадзе больш ажыўлена. Па цэнтральных вуліцах шпацыруюць кампаніі маладых людзей, кавярні запоўненыя.

### Навагодні забег

А ў нядзелю Вільня выйшла на прабежку. На тэрмометры мінус 10 градусаў, але людзей, гатовых бегчы, шмат.

Прычым многія бегуны апранулі навагоднія шапкі, касцюмы, пончо. Мы назіралі за бегам хвілін з 15. А бегуны ўсё не заканчваліся. Прычым, невядома, калі тут прабег першы з іх.

Пакуль мы сядзелі і адаграваліся ў чарговай кавярні, у інтэрнэце ўжо з'явіліся фота з забегу. На адным з іх бачна, што першыя беглі, трымаючы ў руках ёлку.

### Напрыканцы паездкі – снег

Спакаваўшы рэчы, вяртаемся на вакзал. На вуліцы ідзе снег. Людзі намагаюцца цяплей ухутацца ў шалікі.

На вакзале шмат людзей, не ўсім хапае месца, каб сесці. Наш вагон запоўнены цалкам. Суседкі насупраць абменьваюцца ўражаннямі, праглядаюць набытыя магніты ды рэчы.

Праязджаем Гудагай. Тут ужо таксама снег і зіма.

**Настасся РОЎДА, Наталля ТУР.**



Фота Настассі РОЎДЫ

Нягледзячы на тое, што да Новага года заставалася ўсяго некалькі дзён, на святочных кірмашах народу амаль не было.


Фота Настассі РОЎДЫ

Нядзельная раніца і мінусавая тэмпература не перашкода для ўдзельнікаў каляднага забегу.


Фота Настассі РОЎДЫ

Рожкі і паралонавы носік. Так машынка ператвараецца ў аленя Санты – Рудольфа.


Фота Настассі РОЎДЫ

Котка Мілка адразу ж праверыла сумкі, з якімі наведнікі заходзяць у кавярню. А раптам там нешта смачнае?

### "Муркафэ"

На адной з цэнтральных вуліц заўважаем кавярню. За вокнамі сядзяць людзі, п'юць каву. Здавалася б, звычайная кавярня, але не ўсё так проста. Паміж столікамі ходзяць каты. Каты спяць на падваконні, каты сядзяць на крэслах за столікам. На сценах на маляваных катах навагоднія шапкі. Ну як тут не зазірнуць унутр?

Мы ў кавярні "Муркафэ". Усе наведнікі кавярні трапляюць у госці да васьмі дзіўных катоў. Так, менавіта ў госці, таму што тут гаспадары – каты.

Калі на крэсле за столікам, які разлічаны на чатырох, спіць рыжы прыгажун, значыць, гэты столік для трох чалавек. Спакой катоў парушаць тут не дазволена.

На сцяне вісяць партрэты ўсіх жыхароў кавярні. На іх напісаны і імёны катоў. Ну, не прыйдзеце ж вы ў госці да таго, чыё імя не ведаеце? Рыжыка, напрыклад, завуць Кофіс, аксамітнага, вялікага, чорнага ката завуць Фаўст.

У кавярні шматлюдна заўсёды. І нікога не напружвае тое, што побач з тваім кубкам, на якім, дарэчы, таксама выявы катоў, махае хвастом нехта пухнаты і цікаўны.

Карацей, для катоў тут створаныя ўсе ўмовы, чаго не скажаш пра людзей. Калі вы збіраецеся расказаць сяброўцы нейкі сакрэт, будзьце ўпэўненыя, што яго пачуюць усе. Месца ў кавярні вельмі мала. Увогуле, склалася адчуванне, што прыйшоў да сваіх далёкіх сваякоў. Пры гэтым, вы з імі пасварыліся. Сядзіце на канапе, моўчкі п'яце сваю каву і гладзіце ката.

Пасля наведвання кавярні ўзнікае шмат прапаноў, якімі хочацца падзяліцца, але афіцыянтка разумее толькі па-літоўску. І ўжо зазірнуўшы ў іншую кавярню, можна спакойна пагутарыць пра тое, як бы можна было аформіць такую кавярню, каб яна з'явілася ў Беларусі.

ПРАЦЯГ ГІСТОРЫІ

# Як парасяты сталі прычынай аварыі на пуцеправодзе

**МАЛАДЗЕЧНА. Чытач "РГ" Яўген Мумрыкаў прынёс у рэдакцыю артыкул з маладзечанскай газеты "Святло камунізму" за 1985 год.**

У нумары за 4 жніўня журналіст і краязнаўца **Вячаслаў Ляшковіч** распавядаў пра аварыю на пуцеправодзе ў публікацыі сатырычнага жанру фельетона.

Мы некалькі разоў пісалі пра гэта здарэнне: шукалі сведкаў, гутарылі з імі, узгадвалі пра былых работнікаў маладзечанскай міліцыі.

Усё пачалося з таго, што цяперашнія супрацоўнікі міліцыі апублікавалі здымак аварыі са свайго архіва. Пад ім не было подпісу, таму шукалі тых, хто штосьці ведае пра гэты выпадак.

Сёння мы пераказваем змест даўно надрукаванага фельетона ў "Святле камунізму", дзе напісана не толькі пра само здарэнне, але і яго перадгісторыя.

### Усё пачалося праз парасят

Цешча **Уладзіміра Драгуна**, загадчыка гаража, жыла ў Валожынскім раёне. Жанчына гадавала свінню, якая хутка павінна была парасіцца. Дамовілася з зяцем, што, калі з'явяцца парасяты і крыху падрастуць, той возьме машыну і адвязе іх на кірмаш у Ракаў.

Уладзімір Драгун падлічыў, колькі будзе навару на іх продажы. Калі бясплатна ўзяць міжкалгасную машыну і па мінімуму заплаціць кіроўцу, то на гэтым ён зэканоміць больш за 60 рублёў.

**У 1985 годзе кілбаса "Доктарская" каштавала 2 рублі і 20 капеек. Атрымліваецца, за 60 рублёў ён мог набыць 27 кілаграмаў кілбасы (ад рэд.).**

### "Чарка" – важкі аргумент

Калі парасяты падраслі, пачаў дамаўляцца з шафёрам **Францам Маркоўскім**. Прывабіў яго тым, што шафёр зможа пагасціць у маці ў вёсцы Захажэва, з'ездзіць у Ракаў. Больш важкім аргументам была "чарка", якую разап'юць у Маладзечне. Загадчык гаража ведаў, што кіроўца не зможа адмовіцца.

Жонка Уладзіміра Драгуна выпісала пуцявы ліст з патрэбнымі пячаткамі.

29 чэрвеня, у суботу, загадчык гаража паехаў да цешчы ў вёску Селішча, а кіроўца – да маці ў Захажэва. У нядзелю мужчыны зноў сустрэліся, загрузілі ў машыну парасят і паехалі на кірмаш. Там выгадна іх прадалі. Цешча Уладзіміра Драгуна ўзрадавалася гэтаму да такой ступені, што замест "бакштанкі" (самагонкі – ад рэд.) наліла ім чысцюткага спірту.

У Маладзечне загадчык гаража, як і абяцаў, запрасіў кіроўцу на смажаніну і чарку. Той пагнаў машыну ў гараж і хутка вярнуўся.

– Я не пытаўся, ці паставіў кіроўца машыну на месца, – адзначае Уладзімір Драгун. – Сам гэтага не бачыў. Ды і дзе было бачыць і пытацца, калі на стале скварчэла патэльня.

Да апоўначы мужчыны замочвалі выгадны продаж.

### Не памятае, як ездзіў на машыне і трапіў у аварыю

Франц Маркоўскі не памятае, дзе пасля гэтага ездзіў на машыне. Знайшлі яго ў цешчы. Аднак сп'яну сцвярджаў, што быў у жанчыны. Хаця ўся падушка і твар вінаватага былі ў крыві.

Аказваецца, ён п'яны ездзіў па горадзе да таго часу, пакуль яго не спыніў бардзюр на пуцеправодзе. Машына ад удару развалілася на дзве часткі. Міліцыя настойліва шукала гаспадара аўтамабіля. Франц Маркоўскі спачатку адпіраўся, аднак яго віну было не цяжка даказаць.

### Шкода ад аварыі больш за 500 рублёў

Франца Маркоўскага пазбавілі правоў кіроўцы на тры гады, перавялі на работу слесарам трэцяга разраду.

На Уладзіміра Драгуна пасля аварыі толькі пасварыліся за тое, што даў кіроўцу машыну і ўцягнуў яго ў п'янку.

Шкода за аднаўленне сігнальнага маячка і аб'ёмнага дарожнага знака на размежавальным бардзюры – 225 рублёў.

За эксплуатацыю і рамонт машыны разлікі зрабілі па цане старых дэталяў, атрымалася 222 рублі, і па цане новых дэталях – 388 рублёў.

Аўтар артыкула Вячаслаў Ляшковіч гаворыць, што "калі страты ацэньваць па новых запасных частках для рамонту аўтамабіля, то агульны кошт матэрыяльнай шкоды перавысіць 500 рублёў". А за гэта трэба заводзіць ужо крымінальную справу.

Аднак праз два месяцы пасля аварыі было невядома, каму прад'явіць іск – ці Уладзіміру Драгуну, ці Францу Маркоўскаму.

**Галіна СІНІЦА, Настасся РОЎДА.**



Фота забяспечана Яўгенам МУМРЫКАВЫМ.

Аварыя на пуцепрводзе. 1985 год.

У СВЕЦЕ ПАЖОЎКЛЫХ СТАРОНАК

# Дэтафон – гаджэт 1932 года

Сёння лепшым падарункам для дзіцяці, калі не ўлічваць вечных каштоўнасцяў, кнігі))), мабыць, ёсць смартфон, планшэт ці яшчэ якая трасца. На Павіллі ў далёкім 1932-м былі свае гаджэты.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

*Добры падарунак*
*для моладзі школьнай*
*Паслухаць радыё*
*пасля працы мазольнай*

Прыкладна так можна перакласці слоган з рэкламкі, апублікаванай у адным з апошніх нумароў віленскай газеты "Słowo" за 1932 год.

Рэклама гаворыць, што найлепшымі калядными падарункамі з'яўляюцца Дэтафон і Ампліфон.

На малюнку мы бачым двое дзетак, якія сядзяць, адзеўшы слухаўкі, ля нейкай каробачкі. Няўжо гэта тагачасны эмпэтрыплэер ці які смартфон?

Дэтафон (Detefon) – гандлёвая марка польскага дэтэктарнага радыёпрыёмніка. Распрацаваў яго ў 1929 годзе Вільгельм Раткевіч. Выпускаўся да пачатку вайны.

У інтэрнэце можна знайсці звесткі, што каштаваў ён у камплекце са слухаўкамі і антэнай 39 злотых – каля 10 тагачасных долараў ЗША.

Польская даследчыца Агнешка Сова сцвярджае, што гэты прыёмнік быў настолькі папулярным, што паміж яго карыстальнікамі ўспыхвалі сваркі: амаль кожны жыхар гарадской камяніцы хацеў "нацягнуць" на даху ўласную доўгую аж 50-метровую антэну!

Карыстальнікі дэтэктарных прыёмнікаў плацілі штомесяц палову цаны радыёабанемента – 1,5 залатоўкі. Нармальны абанемент каштаваў тры злотых. Вяскоўцы напачатку карысталіся льготамі.

Прыёмнік рабіў магчымым прыём праграм на доўгіх і сярэдніх хвалях.

Да моманту пачатку вайны ў Польшчы было выраблена каля паўмільёна такіх прыёмнікаў.

Акцыя радыёфікацыі Польшчы была самай буйной ў свеце, калі не лічыць "дротавую" радыёфікацыю Савецкага Саюза. Але ў апошнім выпадку сігнал перадаваўся не ў эфіры, а па правадах да калектыўных ці індывідуальных рэпрадуктараў.

Першыя Дэтафоны паступілі ў продаж перад Калядамі ў канцы 1930 года. Яны былі карычневыя – колеру махагону. Пазнейшыя – чорныя. Корпус выраблялся з бакеліту. Старэйшыя чытачы памятаюць такі від пластмасы, з якой яшчэ да 80-х гадоў выраблялі электрычныя разеткі, вілкі, лямпачкавыя патроны, карпусы тэлефонаў…

Слова "дэтафон" ва ўсёй Польшчы і на Віленшчыне ў прыватнасці стала сінонімам слоў "дэтэктарны прыёмнік". Памятаеце гісторыю са словам "арбон", якім у нашым краі сталі называць усе запар аўтобусы? Пра гэта я расказваў каля месяца таму. Так і дэтафонамі, аб якіх ведаюць сёння хіба толькі самыя заўзятыя аматары гісторыі радыё і калекцыянеры.

З-за таго, што Дэтафон быў без узмацняльніка, прыём быў ціхі. Але можна было купіць узмацняльнік. Такім адналямпавым узмацняльнікам і быў Ампліфон. Падключыўшы да яго Дэтафон, у Вілейцы ці Валожыне можна было слухаць перадачы Віленскага радыё усёй сям'ёй.

Вось толькі нямногія гэта рабілі. Большай часткай Віленшчына на той час не была электрыфікаванай.




КАЛЯНДАР

**3 студзеня.** 110 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Хадыкі (1905 – 1940), беларускага паэта, перакладчыка.

***

**6 студзеня.** 305 гадоў з дня смерці (1610) Андрэя Волана, вялікалітоўскага палітычнага дзеяча, філосафа, ідэолага рэфарматаў-евангелістаў, літаратара, сакратара Мікалая Радзівіла Рудога, каралёў Жыгімонта Аўгуста, Стэфана Баторыя, Жыгімонта Вазы. Нарадзіўся і пахаваны ў маёнтку Біюцішкі, цяпер Ашмянскі раён (1530 г.). Ад Мікалая Радзівіла "Рудога" атрымаў маёнтак Біюцішкі, а ад Жыгімонта-Аўгуста – вёскі Чарэшчанету і Гербенету, таксама да смерці дзяржаўцы старосты Рудомін і Немеж. У 1569 годзе атрымаў літоўскі індыгенат (індыгенат – у Рэчы Паспалітай прызнанне за шляхціцам замежнай краіны дваранства краіны (краін) пражывання. Пасля працэдуры індыгенату прадстаўнік гэтага саслоўя набываў усе прывілеі мясцовага шляхціца – аўт.). Па заключэнні Люблінскай уніі шматразова абіраўся паслом на сойм Рэчы Паспалітай ад Ашмянскага павета. За часам Стэфана Баторыя стаў "ганаровым" каралеўскім сакратаром, часта быў пасярэднікам паміж каралём і шляхецкімі сойміками, выконваў важныя дыпламатычныя місіі ў Інфлянты (гістарычная назва земляў усходняй Прыбалтыкі, сучасных Латвіі і Эстоніі – аўт.), Аўстрыю, Маскоўскую дзяржаву. Ён аўтар каля 50 твораў, напісаных пераважна на лацінe: палітыка-прававых трактатаў, прац па этыцы і багаслоўі.

***

**70 гадоў** назад (1945) у Швейцарыі памерла Магдалена Радзівіл, дзячка культурнага руху, мецэнатка. Княгіня адной з першых клапацілася пра беларускае школьніцтва, засноўвала ў сваіх маёнтках беларускія школы. У 1917–1918 гг. у іх настаўнічалі вядомая Паўліна Мядзёлка, сёстры паэткі Канстанцыі Буйло. Справаводства ў маёнтках княгіні было пераведзена на беларускую мову. Сама яна вымагала, каб з ёй гаварылі па-беларуску.

***

**7 студзеня.** Каляды праваслаўныя. Нараджэнне Хрыстова.

***

**8 студзеня.** 1879 год. Нарадзіўся Флягонт Валынец (Вілейка), дзеяч заходнебеларускага нацыянальнага руху.

***

**1936 год.** Нарадзіўся Генадзь Каханоўскі (в. Дамашы, Маладзечанскі раён), гісторык, краязнаўца, літаратуразнаўца.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Успаміны пра праводзіны ў армію, гора людзей у час вайны

**Гісторыя пра тое, як хлопцы ў савецкі час не ведалі, дзе будуць служыць. Як армія робіць усіх аднолькавымі. Пра тое, як яшчэ хлопчыкам Сымон Барыс хаваўся ў лесе, каб бацька не пайшоў на вайну. Пра маці, якая чакала сына з вайны на працягу 30 год.**

У розны час па-рознаму праводзілі і праводзяць мужчын у войска. А таксама па-рознаму адбываюцца і сустрэчы тых, хто вяртаецца дамоў. Вяртанне бывае радаснае, а іншы раз сумнае, нават трагічнае.

### Падораныя грошы захоўвалі да часу, пакуль хлопец не вернецца з арміі

Калі адпраўлялі навабранца ў армію, бацькі спраўлялі вечар – праводзіны ў армію. На застолле запрашалі сваякоў, суседзяў.

Госці ішлі не з пустымі рукамі: неслі гарэлку і закуску (яйкі, сыр, рыбу, масла, кілбасы) – хто што мог. Запрашалі музыкаў. Калі ў навабранца была каханая дзяўчына, яе садзілі з левага боку ад яго, як на вяселлі. Некаторыя пры гэтым абяцалі чакаць сваіх дзецюкоў з войска.

Мужчыны падчас вячэры ўспаміналі сваю службу ў войску, расказвалі розныя армейскія здарэнні. Навабранцу жадалі міру, наказвалі чэсна несці вайсковую службу. Спявалі рускія песні: "Кацюша", "Тры танкісты", іншыя.

Хросны бацька навабранца ставіў на стол міску ці рэшата, пакрытае хусткай і сам клаў некалькі рублёў. Пасля гэтага міску перадавалі па стале, а госці клалі ў яе грошы: па рублю, па тройцы, па пяцёрцы, а то і больш. Гэтыя грошы захоўвала маці хлопца аж пакуль ён не адслужыць у войску.

### Састрыжаныя валасы навабранца хавалі ў хаце, каб вярнуўся

Пасля гэтага моладзь ішла ў клуб або ў суседнюю хату танцаваць. Пажылыя сядзелі за сталом, спявалі, пасля разыходзіліся.

Назаўтра збіраліся тыя ж самыя госці. Апрача пачастунку, выконваліся старадаўнія абрады. Маці навабранца альбо яго блізкі родзіч, шчаслівы ў жыцці, тройчы абходзіў з ім вакол стала па руху сонца (з усходу на захад). Маці брала нажніцы і састрыгала валасы на галаве сына ў трох месцах. Пасля хавала іх у хаце, каб вярнуўся дамоў.

Па старой завядзёнцы магла не нажніцамі абразаць валасы, а запаленай свечкай. З ёй пасля абводзіла сына вакол стала.

Пасля гэтага стралялі з паляўнічай зброі. Госці развітваліся, а сваякі праводзілі навабранца ў ваенкамат.

### Прыйшоў у ваенкамат першым

Сымон Барыс расказаў, як яго прызывалі ў Савецкую армію.

На прызыўной камісіі ў Вілейцы яму далі павестку на адпраўку на нядзелю 10 лістапада 1957 года. Куды пашлюць, ён не ведаў. Сказалі, што на поўнач. Баяўся: "Хаця б не ў Запаляр'е!"

Ніякага вечара і застолля не рабілі. Напярэдадні кастрычніцкага свята ў клубе ў Нарочы была вечарынка. Хлопец схадзіў на яе, але радасці не было. Там пазнаёміўся з дзяўчынай і на развітанне сказаў, што можам убачыцца аж праз тры гады.

У нядзелю бацька Сымона Барыса ўзяў у калгасе каня і на калёсах павёз навабранца да Вілейкі. Ад смаргонскага пераезда на чыгуны хлопец пайшоў сам.

– Прыйшоў а 17 гадзіне, – расказвае Сымон Барыс. – Аказаўся першым. Праз некаторы час пачалі падыходзіць іншыя. Сабралася каля 20 чалавек. Як сцямнела, маёр павёў нас на начлег у лазню. Ляглі на палках: чамадан замест падушкі, а пінжачок – гэта і матрац, і коўдра.

Афіцэр пайшоў вячэраць, таму каля лазні можна было гуляць. Да некаторых хлопцаў прыходзілі дзяўчаты або сёстры.

– Спаць у лазні ляглі позна, – працягвае Сымон Барыс. – Ды і які там сон на халодных плітах або дошках! Пад раніцу нас паднялі, пастроілі ў калону і з чамаданамі і сумкамі павялі на чыгунку. А пятай гадзіне раніцы ішоў цягнік на Маладзечна. Са станцыі Маладзечна пешшу ішлі да абласнога ваенкамата ў Гелянове.

Размясцілі нас там на падлозе (нарах). Разам з асабовымі справамі знаходзіліся ў абласным ваенкамаце. Туды прыехалі і іншыя навабранцы з Мінскай вобласці.

### Навабранцы чакалі "пакупнікоў"

Там хлопцы чакалі, пакуль не прыедуць "пакупнікі". Так называлі сяржантаў, якія прыязджалі, каб адабраць навабранцаў для службы ў іх часцях. Па форме "пакупніка" можна было меркаваць, у якіх войсках будзеш служыць.

– У Гелянове нас не кармілі, прапаноўвалі кіпень, – узгадвае мужчына. – На палатках давялося начаваць адну або дзве ночы, пакуль усіх разабралі. Нарэшце, назвалі мяне па прозвішчы і імені. Потым складалі спіс сфарміраванага ўзвода. Зачыталі яго, і сяржант сказаў, хто будзе намі камандаваць да таго часу, пакуль не прывязе нас у вайсковую часць.

Хлопцам не сказалі, куды павязуць. Пачалі загружаць у таварныя вагоны-"цялятнікі". Цягнік з навабранцамі паехаў у Мінск. Там да эшалона прычапілі яшчэ некалькі такіх жа вагонаў з навабранцамі. З Мінска эшалон пайшоў праз Оршу на Віцебск.

Вечарам яго спынілі і загадалі: "Схадзіць па патрэбе. Выпіць спіртное, калі ёсць. Усё, што ў сумках і чамаданах, з'есці або выкінуць – ноччу прыбываем у вайсковую часць.

### Армія робіць усіх аднолькавымі

– У вагоне сяржант нам ужо сказаў, – расказвае Сымон Барыс, – што будзем служыць на беразе ракі Волхаў. Думалі, што нас і прывязуць у горад Волхаў. Праз некаторы час пад'ехалі да Ноўгарада. За намі прыйшлі высокія, крытыя брызентам, грузавікі. З Ноўгарада нас павезлі ў ваенны гарнізон Крачавіцы.

Там хлопцы адразу вымыліся ў гарнізоннай лазні. Ім выдалі зімовую форму: на шынялях блакітныя пятлічкі з птушкамі, блакітныя пагоны. Усе сталі падобныя адзін на аднаго. Так Сымон Барыс трапіў на службу ў авіяцыю ў дывізіён радыё- і святлозабеспячэння.

– На наступны дзень свае чамаданы і сумкі мы выкінулі, – узгадвае Сымон Барыс. – Вопратку кожны загарнуў у сваю кашулю і хімічным алоўкам напісаў дамашні адрас. Яе пераслалі дамоў.

### Хацеў вучыцца, таму выбраў аддзяленне радыётэлеграфістаў

Пачалася служба. Узвод падзялілі на два аддзяленні: метэаролагаў і радыётэлеграфістаў-пелянгатаршчыкаў. На радыётэлеграфістаў вучылі дзесяць месяцаў, на метэаролагаў – на палову меней. Хлопцам далі права выбару.

З маладзёнаў рыхтавалі спецыялістаў для ўсёй ленінградскай ваеннай акругі.

– Я заўсёды хацеў вучыцца, – заўважае Сымон Барыс. – Таму выбраў радыёстанцыю. Пасля вучобы мне як рэдактару "Боевого листка" дазволілі выбраць месца службы. Я не стаў шукаць лепшага шчасця, застаўся тут – побач наўгародскі педагагічны інстытут. Хацеў адслужыць і паступіць туды. Так і здарылася.

Барыс СЫМАНОЎСКІ.

## Успаміны Сымона Барыса пра вайну 1941-1944 гадоў

### Уцёк з дома, каб бацька не пайшоў на вайну

У той час землякі Сымона Барыса праводзілі мужчын на фронт. Слёзы дзяцей і мацярок. Пацалункі заплаканых жанчын. Жагнанне ля абразоў. Развітваліся і мала спадзяваліся на сустрэчу.

Тады маленькі хлопчык Сымон Барыс уцёк у хмызняк, каб бацька шукаў яго і не ішоў на фронт.

"Як толькі ён пацалаваў абраз, дык я і стаў уцякаць. Не хацеў развітвацца. Было балюча. Хацеў, каб тата жыў і не пайшоў ваяваць. Але ён пайшоў. Праўда, з Куранца вярнуўся дамоў. Там ужо ў раённым ваенкамаце нікога не было".

У ліпені 1944 года аб'явілі мабілізацыю. На зборы давалі не больш за суткі. У той час у вёсцы яшчэ жылі ў зямлянках.

– Другая ноч пасля провадаў майго бацькі была трывожнай і жахлівай, – расказвае Сымон Барыс. – У хаце нечакана стала светла, як днём. У небе гарэлі ракеты, недзе рваліся бомбы. Бамбілі Маладзечна, а можа, і Вілейку.

Туды і пайшлі прызваныя мужчыны з Касічоў. Да фронту яны не дайшлі. Але ўсе ў вёсцы думалі, што гэта іх і бамбілі. Бамбілі нават не салдат, а цывільных. Некаторыя жанчыны пайшлі даганяць сваіх мужоў. Хваляваліся, што могуць раніць, забіць. Хацелі, можа, апошні раз убачыць сваіх блізкіх, дарагіх людзей. Праз дзень прыйшлі пахавальныя. Касічы на гэты раз бяда абышла бокам.

### Пра горкі цукар і завораны лубін

Маці тады яшчэ маленькага Сымона таксама пайшла даганяць мужа. Дагнала толькі ў мястэчку Краснае. Ад яго прынесла гасцінец – два кавалачкі цукру. Гэта быў салдацкі паёк бацькі на вячэру – ён аддаў яго сыну.

– Колькі было мне радасці – бацька мой жывы! А цукар аказаўся зусім горкім, бо я захварэў на воду і страціў смак, – заўважае мужчына. – Маці лячыла мяне кампрэсамі, так раілі бабулькі. Лекараў тады ніякіх не было. Самі лячыліся, як умелі.

"Як на добрае, дык выжыве", – гаварылі суседзі. Хлопчыку пашанцавала – выжыў.

Сымон Барыс расказвае, што потым з мамай яны заворвалі лубін. Яна тады параніла нагу – прычапілася рожа.

– Маці ўжо сабралася паміраць, – распавядае мужчына. – Яна расказала, хто мяне можа ўсынавіць. Назвала дзве сям'і, якія могуць мяне ўзяць на выхаванне. Сказала, каб я маліўся Богу і прасіў паратунку.

Паслала мяне да народнай лекаркі ў Дразды (цяпер вёска Рускае Сяло). Там **Стэфаніда Харлап** замовіла ваду. Вада мела вялікую сілу – маці пачала папраўляцца.

### Баяліся адкрываць салдацкія лісты – раптам пахавальная

Потым ішлі салдацкія лісты ("трохкутнікі") з Румыніі, Чэхаславакіі і Германіі. Ішлі ў вёску лісты аб узнагародах, аб гераічнай смерці. Іх не чакалі, нават баяліся адкрываць, бо часцей былі пахавальныя. Галасілі тады ў той хаце, куды зайшоў паштальён.

Нарэшце, у сям'ю Сымона Барыса прыйшоў доўгачаканы ліст з Кітая, ад бацькі. Толькі ў лютым 1946 года Сымон Барыс, тады яшчэ хлопчык, сустрэўся з ім. Спачатку не пазнаў, схаваўся за печ і заплакаў.

– Пасля бацька карміў мяне сухой кілбасой, частаваў пернікамі і цукрам, – узгадвае мужчына. – Прывёз японскую шапку, у якой адкрываліся клапаны для вушэй. Калі ў той шапцы прыйшоў у школу, дык мяне пачалі дражніць і пабілі.

Тады да іх у хату прыйшла адзінокая **Юлька Каркотка**. Муж у яе памёр. А адзіны сын **Іван** прапаў без вестак на фронце. Жанчына хацела даведацца пра сына.

– Аднак мой бацька нічога не мог сказаць. Сам не бачыў, а іншыя гаварылі, што ім давялося адступаць і Івана Каркотку паранілі ў жывот. Падабраць яго тады не змаглі.

### Пра гора расказвала кату і прыезджым людзям

Аднак жанчына не верыла ў гэта. Спадзявалася: можа, паранены, можа, трапіў у палон, можа, жыве за мяжой. Тыя, хто вяртаўся дадому, не абрадавалі старую. Яна ўсё роўна не пераставала чакаць.

У шафе вісела чыстая кашуля, гальштук і кепка сына. Час ад часу яна іх перасушвала, мыла кашулю. Ішлі гады, ніхто не напамінаў ёй пра сына. Не хацелі наносіць душэўную рану.

Кватаравалі ў яе і настаўніцы, і студэнты, і рабочыя, калі прыязджалі капаць бульбу ў калгасе. Ім расказвала і пра вайну, і пра сына. Кату Ваську не раз распавядала пра сваё гора. Так і памерла старая, не дачакаўшыся сына.

### Як родны бацька загубіў сына

Родны дзядзька Сымона Барыса павялічыў гады свайму сыну Івану, каб той менш служыў і хутчэй вярнуўся. На іх погляд, вайна ўжо канчалася. Дакументаў ніякіх, можна было нават памаладзіць яго. Але пасля шкадаваў аб гэтым усё жыццё, дакараў сябе за тое, што загубіў сына. Не вярнуўся з вайны і зяць – памерлі абодва ў шпіталі ад ран.

**Яўген Варановіч** радаваўся, калі адыходзіў у армію. Радаваўся, што зможа адпомсціць ворагу за спаленую вёску Касічы, за яго спаленую хату, за спаленую сям'ю: жонку Соню, сына Ваню і дачку Соню, за забітых аднавяскоўцаў. І ён помсціў ворагам, не шкадуючы сябе.



● ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# Жывіце і цаніце кожны дзень

## У вас ёсць унікальная магчымасць змяніць сваё жыццё да лепшага

**Клапаціцеся пра сваё здароўе, асаблівую ўвагу ўдзяліце павышэнню імунітэту. Навучыцеся правільна чаргаваць адпачынак і працу, каб не зарабіць сіндром хранічнай стомленасці. Не заганяйце крыўды глыбока ў сябе, умейце дараваць. І тады жыццё будзе расквечанае рознымі колерамі вясёлкі, вам не прыйдзецца звяртацца па дапамогу да доктара.**



**АВЕН.** Год Казы для вас будзе насычаны цікавымі падзеямі, лёгкі і просты. Ён не запатрабуе нейкіх неверагодных намаганняў, каб дабіцца поспеху ці проста быць шчаслівым. За гэта скажыце дзякуй свайму апекуну – Юпітэру, які ў 2015 годзе будзе аказваць гарманічны ўплыў, рэалізоўваць ваш патэнцыял. Ён дапаможа адкрыць перад вамі ўсе дарогі, вам будуць даступныя ўсе жаданні. Нават самым лянівым не будзе сядзецца на месцы. Вы пойдзеце туды, дзе яшчэ не былі, будзеце рабіць тое, што ніколі ў жыцці не рабілі. І не верце тым, хто скажа, што так не бывае. Бывае! Ды вы і самі адчуваеце, што так павінна быць. Так што складайце планы, можна напалеонаўскія, каб ва ўсіх дух займала ад вашай смеласці. І пераходзьце на здаровы лад жыцця.



**ЦЯЛЕЦ.** Ва ўсе часы людзі рабілі спробы знайсці сэнс жыцця. У 2015 годзе па невядомых нам прычынах гэты сэнс будзеце шукаць вы. Вам трэба будзе здзейсніць чарговую спробу зразумець сябе, навакольны свет, сваё месца пад сонцам. Вядома, будуць адбывацца розныя падзеі, якія не маюць да гэтага ніякіх адносін, але вы раз-пораз будзеце вяртацца да гэтай тэмы, каб знайсці скрыты сэнс, які дапаможа пераўтварыць ваша жыццё ў нешта зусім іншае, што пакуль недаступнае для вашага разумення. Менавіта вам будзе дадзеная магчымасць дастукацца да нябёсаў! Нехта з вас набудзе маёмасць, нехта палепшыць жыллёвыя ўмовы, нехта зробіць рамонт з размахам... Пастарайцеся пазбавіцца ад усяго таго, што аджыло, каб упусціць свежае паветра ў ваша жыццё. Ва ўсіх ёсць унікальная магчымасць змяніць сваё жыццё да лепшага.



**БЛІЗНЯТЫ**. Кожны з вас па-свойму будзе ўвасабляць у жыццё свае мары і ідэі, але ў той ці іншай ступені. Імкненне зрабіць утульным і камфортным свой дом захліснe ўсіх вас. У другой палове года не выключана і папаўненне ў сямействе. Таму калі вы чакаеце ці плануеце паклікаць у дом бусла, то ён абавязкова загляне да вас на агеньчык. Не бойцеся новых пачынанняў, бо нават самыя нечаканыя і дзёрзкія мары змогуць увасобіцца ў жыццё. Вы нават зможаце рашыцца на пераезд. Памяняецца кола сяброў і знаёмых. З'явяцца не проста знаёмыя, а ўплывовыя людзі, якія здольныя памяняць ваш лёс настолькі, што ў першы рыяд гэтых змяненняў вы самі ўсё яшчэ не да канца будзеце верыць, што гэта рэальнасць. Навучыцеся раздзяляць работу і ўласнае жыццё.

**РАК.** Вам трэба прыглядзецца да тых магчымасцяў, што перад вамі адкрывае лёс, і пачаць іх выкарыстоўваць. Няма неабходнасці ў руціннай рабоце, у адшукванні новых спосабаў заробку. Усё будзе рабіцца лёгка, нязмушана, так, быццам бы вы не прымалі ў гэтым удзелу і ўсё вырашылася само сабой. Таму, ян марыць памяняць работу, трэба прыглядзець "цёплае месцайка". А таму, хто марыць пра кар'ерны рост, трэба паказаць начальству сваё імкненне да пакарэння новых вяршынь. І гэта трэба зрабіць у першай палове года, бо ў іншым выпадку немагчыма будзе ускочыць у цягнік, які набраў ход. А яшчэ ў вас прачнецца азарт падарожніка, калі змена месца дае новыя станоўчыя ўражанні і эмоцыі. Узрасце цяга да творчасці. Абвострыцца інтуіцыя, і вы нарэшце станеце прыслухоўвацца да сябе. Настаў час выбірацца з панцыра.

**ЛЕЎ.** Вас можна назваць шчаслівчыкамі! Усё, пра што вы марыце, здзейсніцца, і на самых выгадных умовах. Мала таго, што Юпітэр, планета вялікіх дасягненняў і магчымасцяў, будзе знаходзіцца ў вашым знаку задыяка і асвятляць вам шлях. Іншыя планеты таксама даюць вам шмат нечаканых магчымасцяў, каб вы маглі пацвердзіць свой "каралеўскі статус". Урэшце, сярод усіх людзей на зямлі, сярод усіх зорак на небе няма больш велікадушнага знака задыяка, з такім размахам здольнага здзейсніць высакародны ўчынак, не беручы ў разлік уласныя інтарэсы. У гэтым годзе, як і заўсёды, вам нічога не будзе дадзена проста так, па праву нараджэння, але тое, што заваявана ў чэсным баі, будзе вамі цаніцца ўтрайне. Не здрадзіць свайму жыццёваму крэда – само па сабе вялікая ўдача.

**2015 год паспрыяе ўсім, падорыць радасць, упэўненасць у заўтрашнім дні, адчуванне таго, што ўсё будзе добра.**



**ДЗЕВА.** Вы, як рэдкія архідэі, патрабуеце асаблівага клопату і абыходжання, каб цалкам раскрыць сваю ўнікальную прыгажосць. 2015 год для вас можна лічыць годам чаканняў і падрыхтоўкі, яго можна падзяліць на дзве часткі: першая – адпачынак і накапленне сіл, другая – пачатак новых здзяйсненняў. Спачатку вам захочацца пабыць сам-насам, вы будзеце марыць, складаць планы і выношваць ідэі. Гэта лёс дае вам шанс усё узважыць, каб пазбегнуць памылак. І не будзьце надта даверлівы, дапамагаючы іншым людзям. У другой палове года вы пакажаце навакольным, на што здольныя. Не бойцеся зрабіць крок насустрач лёсу, за выключэннем сферы адносін, бо любыя перамены да лепшага. Ёсць верагоднасць, што вам захочацца кардынальным чынам змяніць штосьці ў жыцці.

**ШАЛІ.** Вам шанцуе, літаральна ва ўсім. Такога шчаслівага года даўно не было. Таму можна з упэўненасцю сказаць, што ў 2015 годзе адбудзецца шмат пазітыўных перамен і змяненняў рознага роду, пра што вы даўно марылі. Толькі... з адной умовай, калі вы самі гатовыя змяніцца, калі вы моцныя духам, каб прыняць такія перамены. Нягледзячы на дваістасць, вы ад прыроды вельмі моцныя асобы. Слабымі ж вас робяць думкі і ніжкія жаданні, якія здольныя імгненна знайсці мільён прычын, толькі б збіць вас з правільнага шляху. Часам, тое, чаго вы так баіцеся ці менш за ўсё жадаеце рабіць, з'яўляецца самым патрэбным і правільным. Будзьце хітрэйшыя, разумнейшыя і не спяшайцеся з высновамі, калі не ўпэўненыя на 100% ва ўласных сілах. Лепш прайграць бітву, але выйграць вайну.

**СКАРПІЁН.** У вашым жыцці наступіў момант ісціны і прызнання вашых заслуг. 2015 год прынясе па-сапраўднаму каралеўскія падарункі ў выглядзе дасягнення жаданых мэт. Не прапусціце выпадку скарыстацца імі. Урэшце, здзейсніць нешта немагчымае для вас не так і складана. Але існуе небяспека празмернага выхвалляння з вашага боку. Як "лыжка добрая да абеду", так і любыя дзеянні, якія тычацца такіх складаных сфер, як кар'ера, павінны быць дазіраванымі, падносіцца ў патрэбны час і ў патрэбным месцы. Ува многіх абвострыцца інтуіцыя, так што пры жаданні вам адкрыюцца некаторыя тайныя веды. Многія будуць перажываць незвычайныя адчуванні, эмоцыі, жаданні. Памятайце, 2015 год спрыяе вашым пачынанням, ад вас трэба толькі не сядзець на печы з марамі пра незбытнае.

**СТРАЛЕЦ.** Год паднясе шмат сюрпрызаў. Ужо ў самым яго пачатку вы адчуеце, як груз дэпрэсіі і дрэннага настрою нарэшце пакінуў вас. Жыццё пачынае набываць новыя яркія тоны і фарбы. Перыяд, калі ўсё валілася з рук і нічога не хацелася рабіць, закончыўся. У 2015 годзе вам самім прыйдзецца ісці наперад і будаваць сваё жыццё па цаглінках, як трывалы і надзейны дом. Залог поспеху – упартасць, праца і здаровыя амбіцыі. Вы павінны ўзяць усю адказнасць за свой лёс у свае рукі. Так ці інакш вам прыйдзецца ўсвядоміць, што за сваё жыццё вы ў адказе, і ніхто іншы. Усё залежыць ад вас. І толькі невялікі працэнт ад абставін, якія таксама на 95% залежаць ад вас. Шмат каго пацягне ў далёкія краіны. Досвед, атрыманы ў вандраваннях, – гэта добры патэнцыял для генерыравання ідэй.

**КАЗЯРОГ.** Вам трэба падвесці вынік пражытым гадам, зрабіць высновы і скласці новыя планы. А для гэтага трэба час і адасабленне. Менавіта ў такой абстаноўцы вы зможаце знайсці правільныя адказы на пытанні, якія вас трывожаць. І кожнае павінна атрымаць годны адказ. Увесь год не забывайце пра сябе. Вам абавязкова трэба наладжваць святы, выхадныя, тыя дні, калі вы можаце адпачыць ад мітусні і паўсядзённых клопатаў. Чакае вас і нейкі буйны набытак, які моцна парадуе і не адаб'ецца на ўласным бюджэце. Год дасць шмат пазітыўных уражанняў, вы будзеце як той Рабінзон Круза, які знайшоў шлях уласнага вырatавання. У многіх раскрыюцца таленты. Бо ніколі не позна пачаць пісаць карціны, вершы, навучыцца іграць на інструменце. Гэта ўпрыгожыць вашы будні і, хто ведае, можа зробіць вас вядомым.

**ВАДАЛЕЙ.** Год 2015-ы дасць вам шанс змяніць сваё жыццё так, як вам захочацца, сваімі рукамі вылепіць сваё будучае. І не праміньце такой магчымасці. Так ці інакш, вас, такіх незалежных, чакаюць грандыёзныя перамены! Да адных з іх вы будзеце імкнуцца самі, іншыя будуць адбывацца без вашага ведама. Адны будуць палохаць, іншыя ўсяляць надзею. Але верце, што любыя перамены – да лепшага. Не выключана, што да сярэдзіны лета вы сустрэнеце сваё каханне. Фінансавыя даходы павялічацца, але дзякуючы іншым людзям. У вас прачнецца азарт, вам захочацца паспытаць новыя эмоцыі, паспрабаваць нешта новае для сябе. У нейкіх пытаннях вы можаце не баяцца і нават ісці на рызыку, вам абавязкова пашанцуе.

**РЫБЫ.** Вас чакаюць перамены, ды такія, што, магчыма, упершыню ў сваім жыцці вам даецца магчымасць пагледзець на навакольны свет з шырока расплюшчанымі вачыма. Вы будзеце стрыманыя, сабраныя, з вялікім жаданнем завяршыць справы і дабіцца вынікаў. У вас прачнецца працаголік і кар'ерыст, які доўгі час драмаў, а цяпер патрабуе работы, ды яшчэ і паболей. І вам не трэба адмаўляць сабе ў здзяйсненні жаданага. А ў каго з кар'ерай усё ў парадку – ёсць шанс падняцца па службовай лесвіцы. А восенню, калі прырода губляе яркія фарбы лета, у адносінах з супрацьлеглым полам наступіць вясна, калі ўсё цвіце і пахне. Шмат каго чакаюць перамены, якія раздзеляць ваша жыццё на "да" і "пасля". З'явіцца тое, што расквецiць ваша жыццё, падорыць натхненне.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**




Адной з асноўных задач для новага дырэктара клуба – прыцягнуць больш заўзятараў на стадыён.

● ФУТБОЛ

# Новы дырэктар ФК "Смаргонь": "Задача-мінімум – утрымаць пазіцыі"

**СМАРГОНЬ. Новым дырэктарам футбольнага клуба "Смаргонь" нядаўна прызначылі Мікалая Фядосава. У першым інтэрв'ю на новай пасадзе ён расказаў пра тое, як будзе прыцягваць заўзятараў на стадыён і шукаць магчымасці клубу зарабіць.**

**– Мікалай Мікалаевіч, якія задачы маеце намер вырашаць у першую чаргу, якія мэты ставіце перад сабой на новай пасадзе?**

– У першую чаргу мая задача забяспечыць клуб у фінансавым плане. Гэта значыць, знайсці магчымасці максімальна зарабіць самім, а не толькі атрымаць дапамогу ад спонсараў.

**Але нават нягледзячы на той бюджэт, які ў нас ёсць, магу сказаць, што задачы будзем ставіць даволі сур'ёзныя. Мінімум – утрымаць тыя пазіцыі, якіх мы дасягнулі ў першай лізе на гэты момант. А ў далейшым, вядома, будзем думаць і пра вышэйшую лігу.**

**– Цяпер нават у вышэйшай лізе ёсць каманды, якія маюць цяжкасці, звязаныя з фінансаваннем. У першай і другой лігах сітуацыя яшчэ больш складаная. Якая сітуацыя з фінансаваннем у клубе і за кошт чаго будзе фарміравацца бюджэт клуба ў новым сезоне?**

– Цяжкасці, вядома ж, ёсць і ў нас. Але стараемся іх пераадолець. Калі казаць аб наступным сезоне, то, як я ўжо казаў вышэй, мне б хацелася, каб мы частку бюджэту ўсё ж зараблялі самі. Ёсць заробленыя грошы і ў гэтым годзе, але хацелася б іх у новым сезоне падвоіць і магчыма нават патроіць. Для гэтага планы ў мяне ёсць.

Клуб павінны займацца не толькі футболам, але і бізнесам, каб зарабляць грошы для развіцця футбола на Смаргоншчыне. Асобна хачу падзякаваць галоўным спонсарам клуба.

## Пачынаць трэба з дзіцячага футбола

**– Якія пытанні, не звязаныя з дарослай камандай, лічыце найбольш актуальнымі?**

– У першую чаргу, неабходна аб'яднаць дзіцяча-юнацкую школу з футбольным клубам. Мы ўжо цяпер вырашаем гэта пытанне. Усё павінна быць паступальна, клуб павінны быць вяршыняй той працы, якая праводзіцца з дзецьмі. Пачынаць трэба з дзіцячага футбола.

Будзем прапрацоўваць пытанне аб перадачы стадыёна футбольнаму клубу, бо і ён можа прыносіць дадатковы даход. Разумеем, у выпадку, калі стадыён будзе належаць клубу, гэта пацягне павелічэнне выдаткаў. Але для пачатку правядзём пэўныя разлікі, і ўжо на іх аснове будзем падыходзіць да гэтага пытання ўшчыльную. Магчыма, будзе лепш, калі ўсё ж стадыён застанецца ў падпарадкаванні горада.

**– Выканкам федэрацыі прыняў рашэнне, што ў новым сезоне знаходзіцца на полі павінны мінімум два гульцы, не старэйшыя за 1994 год нараджэння. Ці ёсць мясцовыя выхаванцы, якія могуць запоўніць гэтыя вакансіі ў складзе?**

– Вельмі разлічваю, што выхаванец смаргонскай школы **Максім Яблонскі** ў новым сезоне будзе праводзіць значна больш часу на полі. У мінулым сезоне ён прыцягваўся ў юнацкую зборную краіны, таму, думаю, ён ужо гатовы да гэтага. Улічваючы змены, такіх гульцоў трэба як мінімум чатыры. Вядома, у першую чаргу звернем увагу на мясцовых. Але калі такіх не падбяром – будзем іх шукаць у іншых клубах.

## "Пастараемся стварыць на стадыёне фан-зону"

**– Сярэдняя наведвальнасць матчаў клуба ў гэтым сезоне (і лігі ў цэлым) склала каля 550 гледачоў на матч. Для параўнання: у сезоне-2013 гэтая лічба была на 200 чалавек большая. За кошт чаго ў новым сезоне спадзеяцеся прыцягнуць заўзятараў на трыбуны?**

– У нас ужо ёсць некаторыя папярэднія напрацоўкі, як мы будзем прыцягваць заўзятараў. Гэта асноўная задача і для мяне як для дырэктара клуба, адназначна. Мы будзем знаходзіць розныя спосабы, не толькі з дапамогай латарэй і конкурсаў. Пастараемся стварыць на стадыёне так званую фан-зону, у якой можна было б і перакусіць, і набыць клубную атрыбутыку.

Прыцягваць заўзятараў трэба не толькі на стадыёне, але і за яго межамі. Вядома, гэтаму трэба павучыцца ў заходніх клубаў. І нават не трэба далёка хадзіць, з той жа Польшчы можна браць прыклад. Не моцна адрозніваецца ўзровень футбола ў іншых дывізіёнах нашых краін, але яны ўмеюць прыцягнуць заўзятараў.

**– На працягу мінулага сезона ў каманды, за выключэннем некалькіх гульняў, не было падтрымкі з боку фан-сектара. Называліся розныя прычыны. Будзеце як-небудзь выпраўляць гэту сітуацыю?**

– Калі фан-сектар у каманды адсутнічае, то яго проста неабходна ствараць, трэба знайсці спосабы прыцягнення моладзі. Калі ж праблемы з праваахоўнымі органамі, то агульнымі намаганнямі, думаю, мы зможам іх вырашыць.

Але тое, што фан-сектар у клуба павінны быць – адназначна. Увогуле лічу, што актыўныя заўзятары павінны сябе адчуваць членамі клуба. Магчыма, варта стварыць афіцыйны фан-клуб. Ва ўсякім выпадку, гэтым пытаннем мы таксама будзем сур'ёзна займацца.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ, Смаргонь.**

**Даведка "РГ". Мікалай Фядосаў.** 55 год. Займаўся футболам, скончыў гомельскую СДЮШАР №8. Ад 2005 да 2012 года кіраваў ААТ "Смаргоньсілікатабетон". Таварыства з'яўлялася генеральным спонсарам ФК "Смаргонь" падчас выступлення ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі (2007-2009 гг.).

# Лепшы бамбардзір стане галоўным трэнерам

**СМАРГОНЬ. Кіраўніцтва ФК "Смаргонь" заключыла папярэднюю дамоўленасць з Мікалаем Рындзюком наконт таго, што ён у наступным сезоне зойме пасаду галоўнага трэнера каманды. Пра гэта паведаміў прэс-аташэ клуба Уладзімір Амбрасевіч.**

У сезоне 2014 года капітан каманды Мікалай Рындзюк забіў 18 мячоў. Ён стаў лепшым бамбардзірам "Смаргоні" і другім па выніковасці ў першай лізе. Заўзятары падчас апытання прызналі яго лепшым гульцом "Смаргоні" ў сезоне.

Мікалаю Рындзюку – 36 год. Сярод іншых клубаў выступаў за БАТЭ, маскоўскі "Лакаматыў", "Рубін" з Казані. Пагуляў у Турцыі, Кітаі, Латвіі, Узбекістане. Забіў тры галы за нацыянальную зборную Беларусі.

У каментарах на спартыўных сайтах заўзятары становіча ацанілі гэта рашэнне. Зычаць Мікалаю поспехаў. Мяркуюць: "Чалавек знаходзіўся ўнутры каманды, разумее, хто ёсць хто. Спадзяюся, лішніх прыбярэ і запросіць нармальных хлопцаў". А нехта аптымістычна заяўляе: "Ну, і выдатна! Лічыце, што "Смаргонь" ў "вышцы". Хаця асобныя лічаць, што Мікалай рана завяршыў з кар'ерай гульца: "А мог бы яшчэ папыліць".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Фота fc-smorgon.by

Мікалай Рындзюк перакваліфікуецца з гульца ў галоўнага трэнера.

● НАВІНЫ

## "Вілія" саступае толькі па розніцы мячоў

**СМАРГОНЬ.** Смаргонская "Вілія" пасля першага круга займае другое месца ў групе "Поўнач" у чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па міні-футболе.

Смаргонцы маюць дзве перамогі і адну нічыю. У актыве – сем ачкоў. Столькі ж і ў лідара – "Воранава". Саступае "Вілія" толькі па розніцы мячоў.

## Стартаваў чэмпіянат па міні-футболе

**МЯДЗЕЛ.** У райцэнтры распачаліся гульні чэмпіянату раёна па міні-футболе. Удзельнічаюць у ім 11 каманд.

Адкрыла чэмпіянат 24 снежня гульня паміж камандамі аддзела адукацыі, спорту і турызму і "Юніёр". У апошняй гульні мядзельскія школьнікі. Сустрэча завяршылася ўнічыю 2:2. Каманда НДЦ "Зубраня" перамагла прадстаўнікоў Крывіцкага сельсавета 5:0.

Каманда індывідуальных прадпрымальнікаў "Мядзел" 27 снежня прайграла "Лідару" 2:5. Найбольш галоў пабачылі ў матчы "Алімпіка" з райваенкаматам. "Алімпік" быў мацнейшы 8:6, расказаў дырэктар Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Андрэй Русак.**

## Мядзельцы былі мацнейшыя ў валейболе

**МЯДЗЕЛ.** У фізкультурна-аздараўленчым цэнтры 20 снежня прайшоў калядны турнір па валейболе. Гулялі школьнікі. Спаборнічалі моцныя каманды з Мядзела, Свіры і Занарачы.

І ў дзяўчат, і хлопцаў перамаглі каманды Мядзельскага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра.

## Вызначылі лепшых баскетбалістаў

**ВІЛЕЙКА.** Ад 15 да 20 снежня праходзілі раённыя спаборніцтвы па баскетболе, паведаміла дырэктар Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Жанна Скуратовіч.**

У дзяўчат у групе "А" перамаглі прадстаўніцы СШ №3 Вілейкі. У групе "Б" – каманда Ільянскай СШ імя Грымаца, "С" – Залескага сада-школы.

Паміж юнакоў у групе "А" перамаглі вучні гімназіі №1 "Логас". У групе "Б" зноў жа лепшай была каманда з Ільі. У групе "С" першае месца на рахунку прадстаўнікоў Вязынскага сада-школы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



● КОНКУРСЫ

# Галасаванне за Асобу года "Рэгіянальнай газеты" – да 5 студзеня

**Паспяшайцеся абраць лепшага героя публікацый "РГ" за 2014 год, якога варта адзначыць.**

Рэдакцыя прапануе спіс тых, хто, на думку калектыву, можа прэтэндаваць на гэты статус. Але пераможцу выбіраеце толькі вы, нашы чытачы. Калі хочаце папоўніць спіс, чакаем вашых прапаноў.

Вынікі конкурсу мы пачнём падводзіць у 10 гадзін 5 студзеня. У другім нумары за 2015 год мы назавём імя, каго чытачы назвалі Асобай года.

**Кандыдаты на статус Асобы года па версіі "Рэгіянальнай газеты"**

**Астравец**

1. Рэгіянальны каардынатар Аховы птушак Бацькаўшчыны **Анатоль Лоўкіс**, ратуе ласасёвых рыб.

**Ашмяны**

2. **Вадзім Лукашэвіч**, спявак. Атрымаў сёлета Гран-пры конкурсу "Адна зямля".

3. Васьмікласніца **Вікторыя Янушкевіч** і 11-класнік **Павел Сянкевіч**, выратавалі дваіх людзей, што танулі.

**Валожын**

4. **Георгі Каржанеўскі**, грамадскі актывіст, які да апошняга дня жыцця змагаўся, каб на месцы расстрэлу яўрэяў не будавалі дамы.

**Вілейка**

5. **Валеры Апарык**, дызайнер, які ўпрыгожыў сёлета горад восьмай скульптурай.

6. **Вольга Коласава**. Адна з арганізатараў краязнаўчых імпрэзаў у Вілейцы, аўтар гістарычных артыкулаў "РГ".

**Смаргонь**

7. Валанцёр пад псеўданімам **Ахрэм Белабровік**. Адбудаваў Крэўскі замак у 3D.

8. **Вікторыя Мігановіч**, мадэль. Стала Міс Беларусь.

9. **Уладзімір Церабун**, скульптар. Распрацаваў мемарыяльны комплекс, прысвечаны падзеям першай Сусветнай вайны.

**Маладзечна**

10. **Віктар Жук**, настаўнік. Стаў пераможцам конкурсу "Настаўнік года".

11. Вучань 11 класа **Уладзімір Грахоўскі**, выратаваў дзіця. Двойчы нырaў за хлопчыкам, пакуль аднагодкі стаялі і смяяліся.

12. **Віталь Качаткоў**, музыкант, шахматыст, бізнесмен. Трапіў у топ-спіс аднаго з самых вядомых у свеце парталаў.

13. **Аляксей Кудзін**, шматразовы чэмпіён свету па тайскім боксе.

14. **Міхась Міхалевіч**, краязнаўца, доктар. Заняў трэцяе месца сярод краязнаўчых тэкстаў рэгіянальнай прэсы.

**Мядзел**

15. Аператар **Сяргей Трацэўскі** і майстар **Пётр Тачыцкі**, работнікі аўтазапраўкі. Рызыкуючы жыццём, яны патушылі пажар на запраўцы.

**Як прагаласаваць**

1. На сайце rh.by

2. Пазваніць ці даслаць паведамленне на нумар (8044) 566-26-99

3. Па электроннай пошце regionnews@rh.by

4. Па пошце на адрас: *Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.*

**Аддзел інфармацыі.**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Таямніца цёмнага пакоя**" (Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 студзеня – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў
3 студзеня – у 18:00
4 студзеня – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Камедыя "**Люблю тваю жонку**" ( Канада, з 16 год)
2 студзеня – у 18:00
7 студзеня – у 17:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Паштальён Пэт**" (Вялікабрытанія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3 студзеня – у 15:00
4 студзеня – у 14:30
Цана білета – 12 000 рублёў

Камедыя "**Каханне па рэцэпце і без**" (ЗША, з 16 год)
3 студзеня – у 20:00
8 студзеня – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Пасвечаны**" (Канада, з 16 год)
4, 7 студзеня – у 20:00
8 студзеня – у 20:30
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Фэнтэзі, прыгоды "**Сёмы сын**" (3D, ЗША, Канада, Кітай, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 студзеня – у 14:30
3 студзеня – у 14:00
Цана білета – 45 000 рублёў
2 студзеня – у 20:00
3 студзеня – у 19:00
4 студзеня – у 19:30
7 студзеня – у 18:00
8 студзеня – у 17:30
Цана білета – 55 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды "**Снежная каралева-2: Перазамарозка**" (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
2 студзеня – у 17:00
Цана білета – 30 000 рублёў
4, 7 студзеня – у 16:30
Цана білета – 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**" (3D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
2 студзеня – у 18:30
3 студзеня – у 21:00
4 студзеня – у 18:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Навагодняя камедыя "**Ёлкі 1914**" (2D, Расія, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
3 студзеня – у 16:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**" (3D, Францыя, без узроставых абмежаванняў)
4 студзеня – у 15:00
Цана білета – 25 000 рублёў

Драма "**Зыход: Цары і багі**" (3D, Вялікабрытанія, ЗША, Іспанія, дзецям да 14 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 студзеня – у 20:30
8 студзеня – у 20:00
Цана білета – 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Феі: Легенда пра пачвару**", 3D (ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
5 студзеня – у 14:30
6 студзеня – у 14:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, камедыя "**Астэрыкс: Зямля багоў**", 3D (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 13:30
4 студзеня – у 13:00 (цана білета: 30 000 рублёў)
8 студзеня – у 14:00 (цана білета: 25 000 рублёў)

Фэнтэзі, прыгоды "**Хобіт: Бітва пяці войскаў**", 3D (ЗША, Новая Зеландыя, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
6 студзеня – у 16:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Навагодняя камедыя, драма "**Ёлкі 1914**" (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
2 студзеня – у 17:30
3 студзеня – у 19:30
4 студзеня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, сямейны "**Сёмы сын**", 3D (ЗША, Канада, Вялікабрытанія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
2, 3 студзеня – у 22:00 (цана білета: 60 000 рублёў)
5 студзеня – у 16:30
8 студзеня – у 16:00 (цана білета: 45 000 рублёў)
3 студзеня – у 17:00
4, 6 студзеня – у 19:00
5 студзеня – у 21:00
7 студзеня – у 18:30
8 студзеня – у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыйная камедыя "**Тры багатыры: Ход канём**", 3D (Расія, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 17:30
2 студзеня – у 13:30, 20:00
3 студзеня – у 15:00
4 студзеня – у 17:00
5 студзеня – у 19:00
6 студзеня – у 21:30
7 студзеня – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыйныя прыгоды "**Снежная каралева 2: Перазамарозка**", 3D (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 15:30
2 студзеня – у 15:30
3 студзеня – у 13:00
4 студзеня – у 15:00
7 студзеня – у 14:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Гістарычная драма "**Зыход: Цары і багі**", 3D (ЗША, Іспанія, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
7 студзеня – у 21:00
8 студзеня – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Анімацыя "**Клуб Вінкс: Таямніца марской бездны**" (Італія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
6 студзеня – у 14:30 (цана білета: 15 000 рублёў)
1 студзеня – у 15:00
3 студзеня – у 14:00
4 студзеня – у 16:30
8 студзеня – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Прыгоды "**Цімур і каманда**" (Беларусь, 2014, без узроставых абмежаванняў)
1 студзеня – у 17:00
3 студзеня – у 16:00
6 студзеня – у 16:30
7 студзеня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прэм'ера! Трылер "**Сігнал**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 19:00
2 студзеня – у 21:30
4, 6, 8 студзеня – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Фантастыка "**Пасвечаны**" (ЗША, 2014, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 студзеня – у 21:00
3, 5, 7 студзеня – у 21:30
4, 6 студзеня – у 18:30
8 студзеня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, 2014, без узроставых абмежаванняў)
2 студзеня – у 14:00
7 студзеня – у 16:00 (цана білета: 20 000 рублёў)
5 студзеня – у 14:00 (цана білета: 15 000 рублёў)

Фэнтэзі "**Таямніца чатырох прынцэс**" (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
2 студзеня – у 16:00
4 студзеня – у 14:30 (цана білета: 20 000 рублёў)
5 студзеня – у 16:00 (цана білета: 15 000 рублёў)

Анімацыя "**Кот Гром і зачараваны дом**" (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
8 студзеня – у 15:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прэм'ера! **Фантастычная драма "Воблачны атлас"** (ЗША, 2012, пасля 16 год)
2, 3, 5, 7 студзеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 3 | 6 | | | | | |
| | 6 | 8 | 2 | | | | 7 | 5 |
| | | | | 9 | | | 1 | |
| | | | 9 | | | 3 | | |
| 2 | | | 3 | | 1 | | | 8 |
| | | 5 | | | 7 | | | |
| | 1 | | | 4 | | | | |
| 3 | 7 | | | | 9 | 8 | 6 | |
| | | | | | 2 | 5 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● ГАРАСКОП 2-8 СТУДЗЕНЯ



**Авен.** Не дайце ранам з мінулага адбіцца на вашым цяперашнім жыцці. Не прыкідвайцеся, што яны нічога не значаць. Знайдзіце падтрымку ў блізкіх ці ў тых, хто прафесійна займаецца лячэннем эмацыйных траўмаў.



**Цялец.** Навучыцеся спраўляцца з хваліваннем і пастарайцеся ўвогуле пазбавіцца ад яго. Бо хваляванне адключае нашы мазгі, і вы проста не ў стане вырашыць сітуацыю, якая склалася.



**Блізняты.** Жыццё поўнае складанасцяў, блытаніны і абавязацельстваў, якія робяць яго толькі горшым. Простае жыццё дае прастор для радасці і любімых заняткаў.



**Рак.** Рабіце сваю справу на выдатна. Калі вы хочаце часцей дабіцца ў жыцці, вам прыйдзецца папрацаваць. Вядома, ёсць рэдкія выключэнні, але не спадзявайцеся на іх. Спадзявайцеся на сябе.



**Леў.** Ніколі не позна. Позна – гэта толькі апраўданне для таго, каб не спрабаваць. Дабіцца пастаўленай мэты можна ў любым узросце.



**Дзева.** Любыя дзеянні – гэта лекі ад хвалявання, суму і трывогі. Перастаньце думаць і зрабіце хоць што-небудзь.



**Шалі.** Рабіце тое, што вам хочацца. Будзьце актыўныя. Не чакайце, пакуль жыццё кіне вам костку. Вам можа не спадабацца яе смак.



**Скарпіён.** Не будзьце прывязаныя да меркавання ці перакананняў грамадства. Будзьце адкрытыя для любой магчымасці ці ідэі. Вы здзівіцеся, як шмат магчымасцяў дае жыццё, калі іх не адкідаць.



**Стралец.** Думайце, перш чым гаварыць. Не выкарыстоўвайце словы для таго, каб пакрыўдзіць чалавека. Калі вы зробіце гэта, назад дарогі ўжо не будзе.



**Казярог.** Любоў – гэта адказ на любое пытанне. Любоў – гэта тое, чаму мы тут. Гэта сіла, якая рухае светам. Дзяліцеся ёй і выказвайце яе кожны дзень. Рабіце свет лепшым.



**Вадалей.** Жывіце і цаніце кожны дзень. Калі вам будзе 90 гадоў, колькі дзён у вас застанецца?



**Рыбы.** Часцей выбірайцеся ў падарожжы. Радасць і станоўчыя ўспаміны нашмат важней за матэрыяльныя рэчы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на Rh.by

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Тэлетыдзень 27

## НАДВОР'Е

**3 студзеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / 0 | | -1 / +1 | | -3 / -1 | | -5 / -3 | |
| | 734 | ↗ 8 | 730 | → 6 | 730 | → 4 | 740 | ↘ 4 |
| Вільня | -2 / +1 | | -1 / +1 | | -3 / -1 | | -4 / -2 | |
| | 741 | ↗ 8 | 738 | → 6 | 739 | → 4 | 739 | ↘ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с, Усход, захад па Маладзечне

Усход 9.32
Захад 17.01
Даўжыня дня 7.59

Усход 16.05
Захад 7.26
Квадра 2

| Горад | Ноч | Дзень | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | -1 | +2 | 733 | → 3 |
| Гродна | 0 | +1 | 739 | → 8 |
| Мінск | -1 | +1 | 730 | → 6 |
| Магілёў | -3 | 0 | 734 | → 9 |
| Гомель | -4 | 0 | 740 | → 5 |
| Брэст | +1 | +1 | 754 | ↑ 4 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я У РЭГІЁНЕ

**Вілейка**

- Мінімальная тэмпература -26,5 °С у 1970 годзе
- Максімальная тэмпература +5,3 °С у 2007 годзе

Назірання за 59 год. Паводле meteoinfo.by

# Чытайце праз тыдзень:

- **Колькі станцый тэхабслугоўвання ў Маладзечне? Дзе яны знаходзяцца? Якія паслугі аказваюць? У дапамогу кіроўцам у наступным нумары выйдзе карта СТА ў Маладзечне.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Сацыяльныя сеткі заблакавалі на дзве гадзіны. На вуліцы паніка, людзі ходзяць са сваімі фоткамі і пытаюцца адзін у аднаго "Падабаецца?"

***

Цімку шэсць год было. Сварылася на яго за нешта мама, ён сядзіць пакрыўджаны. Муж пытаецца:
– Што, Цімоха, строгая ў цябе мама?
Дзіця адказвае:
– Тат, гэта ў цябе быў выбар... А мне такая дасталася.

***

Не люблю дарослае жыццё. Вось у дзяцінстве марыла стаць русалкай, паляцець на Месяц, завесці поні. А цяпер мяжа мараў – паспаць, паесці, дажыць да зарплаты.

***

90% прычын паломкі камп'ютараў сядзяць насупраць яго.

**Паводле anekdot.open.by.**





## ЗРАБІ САМ

# Навагодні сувенір "Авечачка"

**Вам спатрэбяцца:**

- *клей ПВА;*
- *нажніцы;*
- *1 упакоўка ватных палачак;*
- *маркер;*
- *2 прышчэпкі.*
- *1 ліст кардону.*

**Майстар-клас праводзіць карэспандэнт Наталля Тур.**

Фота Настассі РОЎДЫ.

**На кардоне або шчыльнай паперы намалюйце авал для цела і мыскі авечкі, лоб трэба зрабіць крыху большым, чым на простым малюнку, таму што гэта будзе аснова для будучай воўны.**

Фота Настассі РОЎДЫ.

**У ватных палачак трэба адрэзаць канцы з ватай. Іх трэба наклеіць на цела і мыску, як паказана на прыкладзе, адзін пласт за адным. Абавязкова пакіньце месца на целе для мыскі. Дайце клею высахнуць.**

Рэгіянальная газета віншуе Вас з Каляднымі і Новым годам!
З Новым годам!

Фота Настассі РОЎДЫ.

**Да адваротным баку авечкі прыклейваем прышчэпкі, яны нададуць авечачцы ўстойлівасць і будуць трымальнікам вашых запісак і нават малюнкаў.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якое жаданне вы загадаеце ў навагоднюю ноч?

**Сяргей Петрушэнка, будаўнік:**

– Здароўя, шчасця, усяго самага найлепшага і грошай паболей.

**Святлана Дубовік, прадавачка:**

– Не скажу пакуль. Але дакладна ведаю, што спосаб, калі роўна ў 12 гадзін, апоўначы, падпальваеш паперку, на якой напісана навагодняе жаданне, кідаеш у келіх з шампанскім і выпіваеш, пакуль гадзіннік б'е 12 разоў, – працуе. У мяне так спраўдзілася ўжо шмат жаданняў.

**Ларыса Капусціна, пенсіянерка:**

– Самае галоўнае жаданне – міру! Толькі міру! І каб жылі ў наступным годзе не горш, чым у гэтым. Я заўсёды на Новы год загадваю жаданні "палётныя". А яны, як правіла, спраўджваюцца. Пазітыву і яшчэ раз пазітыву ўсім! На свет трэба глядзець з усмешкай.

**Віктар Дзякурна, пенсіянер МНС:**

– Не скажу, а то не збудзецца. У мінулым годзе пад бой курантаў загадаў жаданне, каб сёлета нарэшце завяршыўся рамонт. І жаданне збылося!

**Галіна Шэлюх, пенсіянерка:**

– Жаданне вельмі простае: каб за святочным сталом сабралася ўся сям'я. Хочацца, каб унук прыехаў з Мінска. Святочнага настрою ўсім блізкім, а пра здароўе нават і не гавару. Канешне, у першую чаргу пажадаю здароўя ўсім.

**Валянцін Галоўчыц, абвальшчык мяса:**

– Галоўнае, здароўя. Усім здароўя і ўсмешак. А крызісы шмізіс перажывём. Не такое перажывалі.

**Настасся Дзіль, школьніца:**

– Каб усе родныя былі здаровыя і шчаслівыя. А навагоднія жаданні спраўджваюцца. Аднойчы загадала на Новы год мішку плюшавага. А на раніцу ён быў пад ёлачкай.

**Падрыхтавала Наталля ТУР.**

**Рэгіянальная газета.** Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 1 (1027) 2.01.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1742. Падпісана ў друк у 17.00 30.12.2014.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.

